• выдаецца са жніўня1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 700 рублёў

6 студзеня 1996 г. субота, №№ 4 — 5 (22807— 22808)

# ЗВЯЗДА




## РОЗГАЛАС

### «ЧЭКАВАЯ ЛІХАМАНКА» СКОНЧЫЛАСЯ?

**Прыкладна 800 тысяч заяў — такі вынік «чэкавай ліхаманкі», што ахапіла Беларусь у апошні месяц 1995 года.**

Такім чынам, па стану на 1 студзеня прыняць удзел у чэкавай прыватызацыі пажадалі 5 мільёнаў 100 тысяч нашых суграмадзян, альбо 64,6 працэнта ад агульнай колькасці маючых права на атрыманне ІПЧ «Маёмасць». Гэтыя лічбы амаль супалі з прагнозамі спецыялістаў Міністэрства па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі, паводле якіх сваё права стаць уласнікамі дзяржмаёмасці павінны былі выкарыстаць прыкладна дзве трэці насельніцтва Беларусі.

Чакаецца, што ў бліжэйшы час прыватызацыйная актыўнасць грамадзян краіны пойдзе на спад. Тлумачэнні таму наступныя. Па-першае, большасць жадаючых з заявамі аб налічэнні чэкаў у тэрытарыяльныя камісіі ўжо звярнуліся. І па-другое, нягледзячы на ўзросшую да 35 тысяч намінальную вартасць прыватызацыйнага чэка, яго рэальны кошт па-ранейшаму застаецца даволі нізкім — недзе на ўзроўні 1400—1800 рублёў.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ІМЁНЫ ТЫДНЯ

**Пастаянныя чытачы «Звязды» памятаюць гэтую рубрыку, якая вялася на старонках нашай газеты год-паўтара назад (тады яна называлася «Беларус тыдня»). Сёння мы зноў вяртаемся да той ідэі. Падобныя рэйтынгі сродкі масавай інфармацыі праводзяць, напэўна, ва ўсіх краінах свету.**

**У бліжэйшы час пры рэдакцыі «Звязды» будзе створаны спецыяльны савет, у састаў якога ўвойдуць прафесіянальныя палітыкі, палітолагі, сацыёлагі і г. д., з дапамогай якіх мы будзем вызначаць «імёны тыдня». Спадзяёмся і на вашу актыўнасць, паважаныя чытачы.**





**Аляксандр ЛУКАШЭНКА і Вячаслаў КЕБІЧ — гэтая звязка палітыкаў адкрывае нашу рубрыку.**

Чаму менавіта Прэзідэнт? Многія не без падстаў сцвярджаюць, што любы кіраўнік дзяржавы па доўгу сваёй службы пастаянна навідавоку, у цэнтры ўвагі, а таму выступае як бы па-за канкурэнцыяй. Усё гэта так.

Аднак мы ўлічваем сённяшнюю няпростую грамадска-палітычную сітуацыю, якая склалася ў нашай краіне. «У сувязі з гэтым я звяртаюся да беларускага народа і прапаную аб'явіць 1996 год годам нацыянальнай згоды і стварэння на карысць нашай Радзімы!» Словы Прэзідэнта ў навагоднім звароце да беларускага народа сёння актуальныя як ніколі. Сфарміраваны парламент, прадстаўнікі якога таксама заяўляюць аб сваім імкненні да супрацоўніцтва, створаны апарат выканаўчай і судовай уладаў усіх узроўняў. Будзем чакаць галоўнага — сапраўднай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.

Былы прэм'ер Вячаслаў Кебіч на адыходзячым тыдні быў, як ніхто іншы з вядомых людзей рэспублікі, навідавоку, на слыху, і як вынік — падтрыманы дэпутацкай фракцыяй «Згода» ў якасці аднаго з прэтэндэнтаў на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета. Прэзідэнт у прынцыпе пагадзіўся з выбарам фракцыі, адзначыўшы: «З гэтай кандыдатурай я мог бы працаваць».

Прыгадаем, як паўтара года назад гэтыя людзі сапернічалі ў час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, колькі непрыемнасцей, колькі шпілек падпусцілі кандыдаты адзін аднаму. І вось прайшоў час. Здаецца, непрымірымыя апаненты сёння перагледзелі свае пазіцыі, у іх ёсць жаданне працаваць, а не процістаяць. Ці выльюцца добрыя намеры ў канкрэтныя справы, пакажа заўтрашні дзень. А сёння ж пакуль палітыкі тыдня — Аляксандр Лукашэнка і Вячаслаў Кебіч.

### Васіль Іванавіч ДЗЬЯКАЎ



Чытаючы сумныя паведамленні аб тым, што шэраг буйнейшых прадпрыемстваў краіны пачаў новы працоўны год з вымушаных прастояў, вестка, што рабочыя адкрытага акцыянернага таварыства «Пеленг» прыхопліваюць нават суботы, прыемна здзіўляе. Тым больш, калі даведваешся, што з калектыву ў 1300 чалавек 1000 адносяцца да катэгорыі так званых «белых каўнерыкаў» — канструктары, тэхнолагі, дызайнеры, вучоныя...

Яшчэ некалькі гадоў таму асноўныя распрацоўкі Цэнтральнага канструктарскага бюро выкарыстоўваліся выключна ў абаронных мэтах ваенным ведамствам былога Саюза. Крызіс мог пакінуць калектыў «Пеленга» за мяжой існавання. Але гэтага не здарылася. Дзякуючы менавіта такім кіраўнікам, як генеральны дырэктар Васіль Іванавіч Дзьякаў. Ён і яго аднадумцы змаглі не толькі захаваць без перабольшання унікальны калектыў, але і не згубіцца з новымі распрацоўкамі ў віхуры сённяшніх рыначных адносінаў. Супрацоўнікі «Пеленга» ў тэрмін атрымліваюць зарплату, якая, дарэчы, адна з самых высокіх у рэспубліцы, укладваюць прыбытак у развіццё вытворчасці і новых тэхналогій, пастаянна клапоцяцца аб павелічэнні абаротных сродкаў.

Акадэмік Беларускай інжынерна-тэхналагічнай акадэміі, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі касманаўтыкі Васіль Іванавіч Дзьякаў вядзе свой карабель, назва якога «Пеленг», дакладна па курсу.



## ХОЧАЦЕ ЗЭКАНОМІЦЬ ГРОШЫ? КУПЛЯЙЦЕ ПРАЯЗНЫЯ БІЛЕТЫ

**Рашэннем Мінгарвыканкома № 1 ад 4 студзеня 1996 года тарыфы на праезд у гарадскім пасажырскім транспарце павялічаны ў два разы. Так, адна паездка грамадзянам абыдзецца ў 1500 рублёў, «ільготнікам» — 800 рублёў.**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Мінгарвыканкоме, рэзкае павышэнне кошту праезду выклікана тым, што гарадскі бюджэт не можа забяспечыць аплату паслуг пасажырскага транспарту ў поўных аб'ёмах.

За 1995 год гарадскі бюджэт завінаваціўся транспартным прадпрыемствам Мінска 195 мільярдаў рублёў, а яны ў сваю чаргу толькі за цеплавую і электраэнергію не выплацілі 60 мільярдаў. Да таго ж транспартнікі з-за фінансавых праблем не маюць фізічнай магчымасці для перыядычнага абнаўлення і рамонту транспартных сродкаў. Павелічэнне кошту праезду дапаможа атрымаць дадатковы прыбытак (у першым квартале 1996 года — 25 мільярдаў рублёў), што дапаможа зняць вастрыню пытання, аднак выдаткі поўнасцю не пакрые. Сёння фактычныя затраты на адну паездку ў сталіцы складаюць: у метро — 1405 рублёў, у трамваях і тралейбусах — 3029 , у аўтобусах — 3846 рублёў.

У метро кошт паездкі паднялі з учарашняга дня, у наземным транспарце павышэнне чакаецца з 15 студзеня 1996 года. Праўда, каб гэтае мерапрыемства значна не адбілася на кішэнях пасажыраў, Мінгарвыканком вырашыў павялічыць кошт праязных білетаў толькі на 50 працэнтаў. У выніку цана праязнога на адзін від транспарту на месяц складзе 65 тысяч рублёў, на два віды — 90 , на тры — 105 і на чатыры віды — 120 тысяч рублёў. Кошт ільготнага праезду складзе 50 працэнтаў ад поўнага. Пры гэтым трэба адзначыць, што кошт праязных білетаў на студзень пакуль не павялічыўся.

**Сяргей ПРОТАС.**

## РЭХА ПАДЗЕЙ

### САПЕРНІКІ СТАНОВЯЦЦА ПАПЛЕЧНІКАМІ...

Мінулы калядна-навагодні тыдзень праходзіў не толькі пад знакам усенароднага святкавання. Многія беларускія палітыкі нават за навагоднім сталом вымушаны былі памятаць пра баталіі, якія літаральна праз некалькі дзён разгорнуцца ў Авальнай зале Дома ўрада. Пытанне нумар адзін для парламенцкіх фракцый — і тых, што створаны, і тых, якія толькі ствараюцца, — кандыдатура спікера. Пасада Старшыні Вярхоўнага Савета — адна з ключавых. Асоба нумар два ў дзяржаве немінуча выйдзе на першыя ролі ў беларускай палітыцы. У блізкай будучыні ў залежнасці ад выбранай тактыкі і стратэгіі палітык, які зойме гэту пасаду, атрымае магчымасць скласці рэальную канкурэнцыю Аляксандру Лукашэнку на наступных прэзідэнцкіх выбарах.

Акрамя таго, Канстытуцыяй прадугледжана, што ў выпадку датэрміновай адстаўкі ці імпічменту Прэзідэнта яго функцыі да новых выбараў выконвае Старшыня Вярхоўнага Савета. І хоць такі сцэнарый развіцця падзей у Беларусі пакуль што выглядае малаверагодным — магчымасць яго ўзнікнення таксама аказвае істотны ўплыў на колькасць і персанальны састаў канкурэнтаў на пасаду спікера.

На мінулым тыдні стала відавочна, наколькі значныя шанцы ўзначаліць Вярхоўны Савет мае колішні прэм'ер Вечаслаў Кебіч. Па звестках, якія зыходзяць з дэпутацкага корпуса і з прэзідэнцкай адміністрацыі, менавіта на гэту фігуру робіць стаўку Аляксандр Лукашэнка.

На першы погляд, гэты выбар выглядае дзіўна. Цяперашні Прэзідэнт прыйшоў да ўлады ў многім на хвалі адмаўлення і крытыкі палітыкі кебічаўскага ўрада.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ*

# ПРАЕХАЦЬ НА ПРЫВАТНЫМ ТАКСІ

**Перафразаваўшы адэскую лексему, можна заўважыць, што прыватнае рамізніцтва расце ў Мінску і ўшыркі, і ўдоўж. Вось толькі транспарт як сродак рамізніцтва зусім не гужавы, а аўтамабільны. Аўтамабілі ў рамізнікаў найчасцей савецкія. Прабачце, расійскія... Ды не, аўтамабілі як уласнасць беларуская, а выпушчаны ў Расіі яшчэ за савецкім часам.**

Па-першае, патлумачу адразу, што выконваў сваё рэпарцёрскае заданне без усякай прэтэнзіі на сацыялагічны дослед. А ён, дарэчы, і немагчымы. Адны вадзіцелі працуюць з «паперкай» (з ліцэнзіяй, дазволам на такі від прыватна-прадпрымальніцкай дзейнасці), другія — так сабе, без усякіх там дазволаў. Таму ў большасці сваёй і размаўляць на «інтымна»-заробкавую тэму, скажам так, сарамеюцца. У выпадку ж вашай празмернай настойлівасці вас так адбрыюць, што надоўга запомніце. Таму давайце без усякай там сацыялогіі. Высновы, калі жадаеце, рабіце самі. Стаянкі ў вас навідавоку. Вы ходзіце паўз іх і з працы, і на працу. А мо часам і карыстаецеся паслугамі спадароў аўтарамізнікаў. Мой жа клопат рэпарцёрскі — расказаць пра сустрэчы, што ўразілі мяне, прымусілі аб тым-сім задумацца.

І сярод тых, хто працуе без ліцэнзіі, «прыватнікі» бываюць розныя. Недзе з месяц назад я натрапіў на вадзіцеля, які шукае заробку, каб пракарміць сям'ю і ўтрымліваць сваё «аўто», у вольны ад службы час. Так, ніякай памылкі — ад службы... Суразмоўца аказаўся падпалкоўнікам міліцыі. Служба такая, што ў асноўным на дзяжурстве (відаць, па сутках ці па дванаццаць гадзін). Асноўнага заробку — вядомая рэч — не хапае, як і ўсім, хто служыць. Дык вось — падзарабляе. Якія праблемы ў падпалкоўніка-рамізніка? Найгалоўнейшая — стаянка. Трывала нідзе не замацоўваецца. Неяк быў прыстаў да адной. Усё ж больш выгадна, калі чакаеш кліента, а не ловіш яго па горадзе. Ды толькі ці не на першы ж дзень на падпалкоўніка «наехалі», сталі даніну, аброк патрабаваць. Пагражаць пачалі. Аднак, дзякаваць Богу, неяк выкруціўся. Цяпер тую стаянку далёка аб'язджае. Цікаўлюся наконт заробку. Дакладна падпалкоўнік суму не называе. Гаворыць, што працуе не кожны дзень. Але і не адмаўляе, што тысяч пад сто за сваю «другую змену» зарабіць можа.

Прызнацца, падпалкоўнік міліцыі не дужа мяне ўразіў. Гэта калі мець на ўвазе сацыяльны статус аўтарамізніка. Сярод прыватных таксістаў — і інжынеры, і прафесіянальныя аўтамабілісты, і беспрацоўныя маладыя людзі, і вадзіцелі вялікіх начальнікаў (апошнія кліентаў возяць на службовых аўтамабілях. І не больш як паўтары-дзве гадзіны), і шмат хто яшчэ. Прафесіяналізм аўтарамізнікаў залежыць ад таго, ці займаюцца яны яшчэ якой-небудзь справай. Праўду ж кажучы, што па сумяшчальніцтву добрым работнікам не будзеш.

Чарговая сустрэча — з «проста Сяргеем». Едзем ад опернага да Уручча. Час — позні. Папярэдне ўзгадняем кошт паездкі. Дарэчы, прафесіянал ці жадаючы працаваць прафесіянальна відаць ужо па гэтай дэталі. Пагаварыўшы пра надвор'е і палітыку, высвятляю, што Сяргей — рамізнік са стажам. Цікаўлюся наконт рэкету.

— Ды ніякі там не рэкет. Прыходзяць нейкі бамбіза, мякка нагадвае, што ты вінаваты, — вось і ўсё. Звычайна аддаю дзесяць долараў у месяц, — тлумачыць гаспадар аўтамабіля.

— І якія ж паслугі ўваходзяць у гэтую суму?

— У асноўным — адна, але вельмі істотная: ніхто не прымушае цябе бясплатна ездзіць.

—???

— Здараецца з некаторымі... падыходзяць удвух-утрох і гавораць, што будзеш вазіць нас з раніцы да вечара. І калі не назавеш імя або мянушку таго, каму даніну выплаціў, то, лічы, дрэнь твае справы. Так дзень бясплатна і адпрацуеш. Ды яшчэ баюцца, ці пакінуць жывым.

Заробак у Сяргея недзе каля чатырохсот долараў. Больш імкнецца працаваць у вячэрні, начны час. І, вядома ж, у выхадныя, святочныя дні — ледзь не круглыя суткі. З галоўных расходаў — утрыманне аўтамабіля. На гэта грошай Сяргей не шкадуе. Дарэчы, адкладвае на нейкай сотні штомесяц на пакупку новага аўтамабіля.

Прыватныя таксісты, нягледзячы на выплату штомесячнага аброку гаспадарам сваіх стаянак, у большай ступені, чым таксісты-прафесіяналы, адчуваюць на сабе ціск рознага дробнага жулля. Адзін з рамізнікаў расказаў такую гісторыю. Апоўначы пасадзіў «крутога» кліента (вылічыў узровень па «прыкіду» — супермоднае паліто, белы шалік, прычоска) са сціплай дзяўчынкай-»козачкай». У руках у маладога мужчыны — японскі двухкасетнік. Пакатаў па горадзе, спыніўся ля начной крамы. І хлопец, і дзяўчына выйшлі, пакінуўшы ў машыне магнітафон, накупілі ўсякай драбязы — шакаладак, цукерак, напояў. Далей сцэнарый разгортваўся прыблізна так. Алёна (таксіст ужо і імёны вывучыў) спытала ў Аліка, ці не дасць ён ёй крыху грошай. Маўляў, суседка павінна была забраць з хімчысткі яе — Алёніна — паліто, заплаціўшы свае грошы. Мо нават зараз давядзецца зайсці. Прасіла ж да раніцы разлічыцца.

— Паглядзім, дзетка, — млява адказаў Алік. Як быццам і не для таксіста гульня ішла.

Спыніліся. Джэнтльмен ветліва папрасіў пачакаць, пакуль праводзіць даму. Таксіст не перажывае — у салоне ж магнітафон. Праз хвілін пяць вярнуўся і Алік. Плюхнуўся на пярэдняе сядзенне і адразу:

— Дзе б тут «баксы» памяняць? — і выцягнуў з кішэні сотню «зялёных». — А мо ты разаб'еш?

Стомлены аўтарамізнік і падумаць нічога не паспеў, як Алік выдаў чарговую прапанову:

— Ці, каб цябе не трымаць, дай колькі ёсць, а я на зваротнай дарозе ў той жа начной краме размяняю. Усё роўна мне яшчэ і за дарогу з табой трэба разлічыцца.

Вадзіцель моўчкі выцягнуў з кішэні сто дваццаць тысяч — увесь свой папярэдні заробак. Баяцца, як палічыў прыватнік, няма чаго. Гарант, залог свайго роду — японскі двухкасетнік. Алік не прыйшоў праз пяць хвілін, не было яго і праз дзесяць. Вадзіцель запаліў у салоне святло, зірнуў адразу ж на задняе сядзенне. Магнітафона там і блізка не было. У роспачы аўтарамізнік кінуўся ў пад'езд. «Не скразны», — парадаваўся спярша. Ды толькі на некалькі хвілін. «Скразным» аказаўся выхад на дах. Туды і залезлі, а пасля выйшлі праз другі пад'езд начныя пасажыры даверлівага прыватніка.

Небяспечнасць аўтарамізнага бізнесу — і ў частых «праколах». Часам не аплачвае дарогу кампанія з трох-чатырох чалавек. Супраць сілы не папрэш. Таму больш чым двух кліентаў рэдкі аўтарамізнік садзіць у машыну. І ўсё ж колькасць прыватных таксістаў множыцца. Прычыны на тое зразумелыя — беспрацоўе, нізкія заробкі, спадзяванне хоць такім чынам радыкальна палепшыць уласны матэрыяльны дабрабыт.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ПРОСІМ ДАПАМОГІ*

## ЧАМУ НАС ВЫКІНУЛІ НА АБОЧЫНУ?

Усё сваё свядомае жыццё мы працавалі ў Мышанскай сярэдняй школе і жылі на тэрыторыі саўгаса «Мышанка».

У вольны час (перш-наперш у час летніх канікулаў), калі ў гаспадарцы было цяжка, ішлі ёй на дапамогу. Улетку на лузе касілі, зграбалі і стагавалі сена. Таксама працавалі і ў полі: сціртавалі салому, апрацоўвалі буракі, убіралі іх, выконвалі іншыя работы, якіх у вёсцы шмат.

Цяпер мы — пенсіянеры, але, як дазваляе здароўе, прымаем удзел у сельскагаспадарчай працы: апрацоўваем дзялянкі тых жа буракоў, ходзім на іншыя работы.

У саўгасе «Мышанка» за ўсю гісторыю яго існавання перамянілася восем дырэктараў, але ўсе яны былі чулымі, уважлівымі да настаўнікаў. Мы карысталіся тымі ж ільготамі, што і саўгаснікі, згодна з адпаведнай пастановай ранейшага ўрада.

Вясной мінулага года дырэктарам саўгаса стаў Іван Мікалаевіч Серада. Ён адразу аднёс настаўнікаў да пабочных асоб гаспадаркі, што, на наш погляд, супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Пенсіянеры-саўгаснікі за паслугі плацяць 50 працэнтаў іх кошту, а мы, настаўнікі, — усе 100 працэнтаў. Каб узараць 15 сотак запушчанай зямлі, якую даюць для пасадкі бульбы, саўгас узяў восемдзесят тысяч рублёў. А колькі спатрэбіцца тысяч, каб поўнасцю падрыхтаваць гэты ўчастак для пасадкі бульбы? Не хопіць і нашай пенсіі. А трэба ж яшчэ купіць хлеб і да хлеба. Мы — людзі ўжо старыя, хваравітыя, не можам абысціся і без лекаў, якія цяпер так дорага каштуюць.

Крыўдна становіцца за такія бяздушныя адносіны да нас, пенсіянераў, з боку кіраўніка саўгаса. Просім дапамагчы нам стаць на маральную і сацыяльную ступень нароўні з людзьмі іншых прафесій.

Нам вельмі балюча, што, аддаўшы свае сілы, усё жыццё сеючы разумнае, добрае, вечнае, цяпер апынуліся на яго абочыне.

**Аляксандр КУЛАК,**
**Уладзімір ГРАМОВІЧ,**
**Софія ЕРМАЛОВІЧ,**
*настаўнікі-пенсіянеры.*
*Петрыкаўскі раён.*

*ПРЫРОДА І МЫ*

## СПІЛАВАЦЬ НЕЛЬГА, А ЗНІШЧАЦЬ ЭКСКАВАТАРАМ МОЖНА

Хачу напісаць вам, дарагая рэдакцыя, вось аб чым. 14 сакавіка мінулага года каля парку нашай вёскі я спілаваў 12 старых, дуплаватых вольхаў. Зрабіў так перш-наперш для таго, каб лепш раслі маладыя дрэўцы. 22 сакавіка мяне выклікалі ў кабінет дырэктара ПТВ-207 Э. Вайцяховіча, дзе быў начальнік раённай інспекцыі па экалогіі С. Хіло. Яны ўчынілі мне допыт, а 20 красавіка супраць мяне была ўзбуджана судовая справа. Кошт незаконна спілаваных дрэў склаў 103.930 рублёў. 13 чэрвеня мне прысудзілі тры мільёны рублёў штрафу.

Цяпер механізатары сюды прыехалі ачышчаць сажалку, дзе трактарамі і экскаватарамі знішчаюць маладыя і старыя дрэвы.

Я кожны дзень хаджу на работу праз гэты парк, і кожны раз на душы становіцца балюча. Чаму ж тады са мной так несправядліва абышліся?

**Тадэвуш ФАЛЕВІЧ,**
*жыхар в. Камарова*
*Мядзельскага раёна.*

## З ЛЮБОЎЮ ДА ЛЕСУ, З КЛОПАТАМ ПРА ЛЮДЗЕЙ

У лістападзе мінулага года я пабываў у санаторыі-прафілакторыі «Залатыя пяскі», што ў Гомельскай вобласці. І кожны пражыты тут дзень адкрываў мне вочы на тое, як можна і трэба беражліва адносіцца да прыроды. Па-першае, я не бачыў звалак у лясах вакол санаторыя: гаспадарлівасць заўважаў на кожным кроку.

Праўда, спачатку мяне здзівіла раскіданасць будынкаў прафілакторыя. Але калі я наведаў летнюю танцпляцоўку, мне ўсё стала зразумела. Два дубы і сасна, якія аказаліся ў зоне будаўніцтва пляцоўкі, не былі высечаны, а для іх у даху зрабілі адтуліны, і яны з'явіліся дадатковым упрыгажэннем унутры. Такое можна ўбачыць і ў іншых месцах санаторыя.

Раскіданасць будынкаў тут адбылася з прычыны ўсё той жа любові да некранутай прыроды. Пляцоўкі пад будаўніцтва выбіраліся там, дзе не трэба было высякаць лес. Рака Сож працякае прыкладна за 500 метраў ад санаторыя, мясцовасць рэзка перасечана ярамі. І тут для пешаходаў зроблены падвясныя масцікі, што не парушаюць ландшафту. А прасцей было загнаць бульдозер, зраўнаваць яры і пакрыць асфальтам. Вось таму, відавочна, тут многа вавёрак, зайцоў, іншых звяроў і птушак паблізу санаторыя і на яго тэрыторыі.

Хацелася б адзначыць асаблівую беражлівасць да кожнага дрэва. Калі ідзеш, то бачыш, як каля будынкаў ушчыльную са сценамі стаяць яны, хоць гэта і ўскладняла будаўніцтва. І ўсюды створаны ўмовы для жыцця гэтых дрэў, каб да іх каранёвай сістэмы паступала вільгаць. Так і хочацца сказаць: дзякуй будаўнікам, работнікам санаторыя-прафілакторыя «Залатыя пяскі».

*З павагай* **Іван СКАВАРОДКІН,**
*пенсіянер, ветэран працы. г. Рагачоў.*

*ПРЫКРЫЯ ДРОБЯЗІ*

## ПАСПРАБУЙ ПАЗВАНІ ВАХЦЁРУ ІНТЭРНАТА

Можа, і не варта было б пісаць, але крыўдна на душы. І вось з-за чаго. Мая дачка жыве ў Мінску, у інтэрнаце, што знаходзіцца па вул. Рыбалкі, 3.

8 лістапада мне спатрэбілася тэрмінова ёй пазваніць. У 9.30 вечара ад суседзяў заказала міжгароднюю размову.

Калі зазваніў тэлефон, я імгненна схапіла трубку і спытала: «Гэта інтэрнат, нумар 29-06-86?» Адказалі: «Так». Прашу паклікаць маю дачку, называю яе прозвішча, імя. Мужчынскі голас пытаецца: «На якой палавіне яна жыве?» Адказваю. Тады той жа голас пытаецца: «А на якім паверсе?» Называю і паверх, і нумар пакоя. Чакаю. І нарэшце ў трубцы чую ўсё той жа мужчынскі голас, які паведамляе, што нікога там няма.

«Не можа такога быць», — падумалася мне. У дачкі зусім маленькае дзіця, а другому — 6 гадоў, і ў такі час яны ўжо звычайна спяць. Закралася трывога, што, магчыма, дачка з самым малым знаходзіцца ў бальніцы, а муж з большанькім паехалі іх адведаць. І я папрасіла перадаць, каб не прывозілі мне ўнука, пакуль я сама не напішу.

І што вы думаеце: праз два дні зяць яго прывозіць. Ад Оршы да Межава ехаў на таксі (аўтобусы ўжо не хадзілі) і заплаціў 140 тысяч рублёў.

Пытаюся ў зяця: «А што, вахцёр нічога не перадаваў?» — «Не», — адказвае і дадае, што ў іх вахцёрамі працуюць жанчыны, і іх аж тры.

Вось мне хацелася б ведаць, а дзе ў той вечар была вахцёрка? Чаму з-за яе давялося гаварыць з нейкім мужчынам, заплаціць за гэта 5 тысяч рублёў, і ўсё дарэмна? А яшчэ я не разумею, за што такія людзі ў цёплым, утульным месцы атрымліваюць зарплату?

Адпрацавалі б яны, як я, на ферме 26 гадоў, тады, відаць, больш адказна адносіліся б да сваёй работы.

**Ніна КАРАНЬКОВА.**
*в. Новае Сяло, Аршанскі раён.*

*ПРЫМІЦЕ НЕАДКЛАДНЫЯ МЕРЫ:*

## Бутэлька-бутэлечка, дзе цябе збыць?

Усе мы пакупнікі. Час ад часу набываем тавар, разліты ў шкляны посуд. Праўда, у наш цяперашні час выгадней былоб, ісці ў магазін, калі хочаш набыць паўлітроўку гарэлкі ці ліманад, са сваім посудам. Адкаркаваў на месцы бутэльку, пераліў у грэлку яе змесціва і плаціць за посуд не было б патрэбы, ды і потым не ўзнікла б пытання, дзе ж гэты самы посуд збыць. На жаль, у жыхароў вёскі Малыя Нястанавічы, ды і навакольных, якія карыстаюцца паслугамі мясцовага магазіна, яно стаіць востра. Раней сяк-так у гэтай гандлёвай кропцы прымалі кожны чацвер шкляны посуд. А вось ужо амаль цэлы год тут і чуць не хочуць аб прыёме посуду, кажуць: «Вязіце ў Плешчаніцы, ў нас не прыёмны пункт». А да тых Плешчаніц 12 кіламетраў, ды і там, адзін Бог ведае, давядзецца збыць посуд ці не. Праўда, і ў нашай сельскай краме можна здаць, але толькі ў тым выпадку, калі ты маеш добрыя адносіны з яе загадчыцай Матусевіч Марынай і прадаўцом Пташнік Нінай. Як быць іншым? Няўжо нашаму гандлю не патрэбны пустыя бутэлькі і наша дзяржава такая багатая, што не можа наладзіць як след прыём шклатары ў сельскай мясцовасці, а лічыць лепшае выпускаць тыя самыя бутэлькі на заводзе і траціць на гэта нямала сродкаў? Ці такое становішча з прыёмам шклатары толькі ў нашым Лагойскім раёне?

**Сяргей МАРКЕВІЧ,**
*жыхар вёскі Малыя Нястанавічы,*
*беспрацоўны.*

## Пералётная пляшка

Ну птушка — зразумела. Але каб пляшка...

Тым не менш, калі акальцаваць бутэльку, магла б выявіцца дзівосная з'ява. Парожняя ёмістасць, аказваецца, набыла здольнасць лятаць за мяжу і назад, прычым нідзе не запраўляючыся вадкасцю.

Нічога звышнатуральнага тут няма. Справа ў рознай залогавай цане бутэлек, з-за чаго гады два назад яны касяком пацягнуліся ў Расію, а зараз, папыліўшыся ў сховішчах, вярнуліся ў родныя пенаты, запоўніўшы пункты прыёму шклатары аж пад завязку.

Вось чаму здаць тару для нёпрадпрымальных магіляўчан зараз гэтак жа нерэальна, як пабываць на Марсе.

Але бізнес на розніцы цэн — толькі адна прычына, па якой узнікла надакучыўшая ўсім праблема. Бутэлькі, як вядома, павінны прымаць магазіны. Але ў гандляроў ужо даўно сфарміравалася рынaчная псіхалогія: а што гэта дасць? Грошы за бутэлькі ўзялі? Узялі. Цяпер аддавай? Ды яшчэ цягай скрынкі? Дудкі!.

Вось і пішуць: няма скрынак.

За дрэнны асартымент пакараюць, за аблічванне, скажам, таксама, а вы чулі, каб дзе-небудзь прыцягнулі да адказнасці работніка гандлю за непрыём шклатары? У Магілёве аб такім прэцэндэнце я, напрыклад, не чуў.

Між тым, размова не столькі аб капеечнай бутэльцы, колькі аб прыстойнасці дзяржавы. Грамадзянін за гэтую бутэльку ёй ужо заплаціў і просіць усяго толькі вярнуць свае грошы. А яму — ад варот паварот.

Зрэшты, хіба гэта першы раз?

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## Ад аддзела пісьмаў

На жаль, праблема здачы шклатары існуе не толькі ў Лагойскім раёне і Магілёве. Яна, як пішуць нашы чытачы з Гомельскай, Гродзенскай абласцей, а таксама з іншых раёнаў, востра стаіць амаль паўсюдна. «Звязда» неаднойчы закранала гэта актуальнае, набалелае пытанне. Кіраўнікі ведамстваў і арганізацый, якім яно было адрасавана, выказвалі меркаванне, што гэта праблема будзе ўсё ж вырашана. На самай жа справе становішча не толькі не паляпшаецца, а, наадварот, ускладняецца. Напрыклад, у г. Мінску людзі з сумкамі, поўнымі пустых бутэлек, кідаюцца ад аднаго прыёмнага пункта да другога і нідзе не могуць іх здаць. Як правіла, на дзвярах гэтых кропак вісяць несуцяшальныя аб'явы: «Няма тары», «Пункт не працуе з-за адсутнасці грошай», «Прыёмшчык хворы» і г. д.

Прабачце, але чаму ва ўсіх такіх выпадках павінен цярпець здатчык? Любы з іх, калі купляе ліманад, піва, гарэлку, плаціць спаўна не толькі за гэтыя напоі, але і за бутэлькі, у якіх яны прадаюцца. Так? Тады ўзнікае заканамернае пытанне: калі прадпрыемствы-вытворцы пастаўляюць у гандлёвую сетку сваю вадкую прадукцыю, то чаму ў той жа час яны і прыёмныя пункты, як могуць, адмахваюцца ад шклатары? Што, яна, акрамя пакупніка, які выклаў за яе грошы са свайго кашалька, нікому больш не патрэбна? Тады, як прапаноўваюць здатчыкі, не варта ўключаць яе кошт у цану пры рэалізацыі напояў — і зусім лёгка вырашаецца праблема. Людзі з бутэлькамі не будуць атакаваць прыёмныя пункты, а пустую тару проста выкінуць на сметнік. Як гэта зараз робяць яны з «фугасамі» з-пад «Шампанскага», посудам з-пад імпартных напояў. Але ж калі рабіць так, то гэта будзе самай элементарнай і недаравальнай безгаспадарчасцю. Вось рэспубліканскае аб'яднанне «Белтара» і Міністэрства гандлю са сваімі партнёрамі-пастаўшчыкамі разнастайных напояў абавязаны, у рэшце рэшт, знайсці правільнае, разумнае рашэнне і паставіць на гэтым кропку. Менавіта гэтага чакаюць шматлікія здатчыкі шклянога посуду.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваў да друку Іван БРАЛКА.**

## Рыгор КІСЕЛЬ:

# «Я ЗАЦІКАЎЛЕНЫ Ў ЦЫВІЛІЗАВАНЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ З ПАРЛАМЕНТАМ»

***Днямі Беларускае тэлебачанне адзначала сваё 40-годдзе. З гэтай нагоды карэспандэнт «Звязды» сустрэўся са старшынёй Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Рыгорам Кісялём. Праўда, размова была аб надзённым, праблемах рэфарміравання ТБ, стварэння другога канала, асвятлення дзейнасці новага Вярхоўнага Савета на тэлебачанні.***

**— Рыгор Леанідавіч, дазвольце адразу павіншаваць вас і ўсіх вашых супрацоўнікаў з 40-годдзем Беларускага тэлебачання, якое вы адзначылі нядаўна. Гэта прыемнае свята, аднак хацелася б пагаварыць аб надзённым, аб сённяшнім жыцці БТ. Калі вы амаль 1,5 года таму ўступалі на пасаду кіраўніка Беларускага тэлебачання, вы хацелі зрабіць яго перш за ўсё неправінцыяльным. Як вы мяркуеце, наколькі вам гэта ўдалося?**

— Такое жаданне ў мяне засталося — зрабіць БТ неправінцыяльным, яно не знікла. Я не думаю, што за гэтыя паўтара года ўдалося зрабіць тое, што хацелася, але ўсё ж нешта зроблена. Я так прыкладна ацэньваю, што мы зрабілі палову таго, што хацелі. Калі вы скажаце, што гэтай паловы не бачна на экране, не чутна ў радыёэфіры, то я хацеў бы зазначыць, што каб было на экране, то спачатку трэба зрабіць чорную работу, якая не бачна нікому — гэта работа па мадэрнізацыі структуры, часам нават работу псіхалагічнага характару.

Так склалася, што вельмі многія журналісты тэлерадыё з-за многіх прычын адарваныя ад вынікаў працы, усе ўраўнаваныя — здольныя і няздольныя, лянівыя і апантаныя... Вялікая справа была зроблена, каб разбурыць гэтую савецкую роўнасць і даць магчымасць людзям працаваць у поўную сілу і адпаведна атрымліваць. Зараз ужо на кантрактнай сістэме працуе наша АТН. Мы аб'явілі таксама конкурс на цыкл перадач, на фарміраванне творчых груп, а не проста рэдакцый як аморфных структур. І тут таксама будуць заключаны кантракты, мы будзем проста купляць праграмы...

**— Яшчэ адна рэарганізацыя?**

— Не, я не сказаў бы, гэта хутчэй натуральны адбор. Да новага года ў нас было 128 праграм — такога няма ні на адным тэлебачанні. Кожны, хто прыходзіў на БТ, той і вёў праграму, не пытаючыся ні ў кога, можа ён ці не можа гэта рабіць... У выніку атрымлівалася шэрасць на экране. Таму мы ўжо сорак з лішнім адыёзных праграм закрылі. Я разумею, што гэта людзі, але мы не райсабес. Тыя праграмы, што засталіся, — таксама часовыя. Нам сёння трэба пяць грунтоўных праграм: палітычная, эканамічная; інтэлектуальная, міжнародная і рэгіянальная. Аб'яўлены конкурс на гэтыя праграмы, і тыя, хто яго выйграе і будуць фарміраваць групы, возьмуць лепшых супрацоўнікаў, а горшыя застануцца ўбаку. У рэшце рэшт, да канца года пройдзе натуральны адбор...

**— Колькі ў вас цяпер супрацоўнікаў?**

— Структура наша такая: тэлебачанне і радыё ў Мінску, мясцовыя студыі, радыётэлецэнтр (800 чалавек). Усяго ж у нас працуе каля 3000 чалавек ва ўсёй структуры нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. На той аб'ём вяшчання, які ёсць, — гэта многа. Сёння прымаць рашэнне аб скарачэнні немэтазгодна. Гэта нашы людзі, у іх ёсць сем'і... Таму мы ім і растлумачылі, што толькі ад іх залежыць іх дабрабыт. Гэта будзе рабіцца паступова, а ў перспектыве творчыя групы павінны самі зарабляць грошы, самаакупляцца, інакш іх ніводная дзяржава не вытрымае...

**— Ці можам мы сёння гаварыць аб стварэнні другой нацыянальнай праграмы?**

— Было вельмі многа шуму вакол гэтага пытання, аднак гаварылі аб гэтым людзі, далёкія ад тэлебачання, якімі рухала палітычная матывацыя, падпёртая камерцыйнымі інтарэсамі... Калі ж мы задумаліся пасур'ёзнаму над гэтай праблемай, то прыйшлі да пэўных высноў і ідэй. Для таго, каб зменшыць выдаткі на другі канал, для таго, каб яго зрабіць нацыянальным, а не мінскім, ёсць ідэя на базе нашых абласных аб'яднанняў, якія маюць тэхніку і людзей, якія не загружаны, на частаце аднаго з расійскіх каналаў (хутчэй за ўсё «Санкт-Пецярбург») пачаць развіваць другі канал, і ў перспектыве, мабыць, зрабіць яго акцыянерным таварыствам, каб не ўскладаць на дзяржаву дадатковыя выдаткі... Сёння вяшчанне каналаў «Расія», ГРТ, «Расійскія універсітэты», «Санкт-Пецярбург» поўнасцю аплачвае наша кампанія. Мы плацім за тое, што беларускі народ глядзіць гэтыя каналы. Нам плаціць толькі НТБ...

**— У Літве, Латвіі расійскія каналы вымушаны былі плаціць за права вяшчання на тэрыторыі гэтых краін...**

— Магчыма, і мы да гэтага калі-небудзь прыйдзем... Я разумею, што тут ёсць камерцыйныя інтарэсы расійскіх кампаній, але тут, відаць, трэба зрабіць і чыста палітычны крок. Аднак трэба прызнацца, што ўзамен такога ж узроўню мы даць не можам. Таму, відаць, сёння гэтыя выдаткі неабходны, а з цягам часу, з развіццём нашага ТБ, другога канала, нейкіх прыватных каналаў, можа паўстаць такое пытанне.

**— Як вы ацэньваеце вашы рэформы ў інфармацыйным вяшчанні БТ?**

— Гэта першы крок, які мы зрабілі. Я не скажу, што ён вельмі ўдалы, але ўсё ж мы пачынаем набываць цывілізаваны выгляд. Я разумею, што нас можна абвінаваціць справа, злева, зверху, знізу ў нейкай тэндэнцыйнасці, палітызаванасці... Зразумейце, не бывае абсалютна універсальных рэчаў, якія б адпавядалі інтарэсам усіх бакоў. Я не думаю, што мы такія адыёзныя, якімі нас прадстаўляюць.

**— Пры ўступленні на пасаду вы зазначылі, што хацелі б пазбегнуць празмернай ідэалагізацыі тэлебачання і нават заявілі, што новых «сцюардэс» тут не будзе. Як вы лічыце, сапраўды за гэтыя паўтара года нічога блізкага, падобнага на «сцюардэсу», на БТ не было?**

— Падобнага не было. Былі нейкія палітычна накіраваныя рэчы, але параўноўваць іх са «сцюардэсай» я не стаў бы.

**— А вось як вы самі ацэньваеце мастацкія вартасці фільма «Нянавісць»?**

— Я не ацэньваў бы гэтых вартасцей. Гэта звычайны дакументальны фільм, заснаваны на фактах і на параўнанні... Я разумею людзей, якія падтрымалі фільм «Нянавісць», і разумею тых, якія пратэставалі супраць яго. У кожнай з гэтых груп ёсць падставы для такіх ацэнак... Напярэдадні першай сесіі новага Вярхоўнага Савета, новага этапа палітычнага развіцця, калі мы пачнём успамінаць некаторыя дзеянні і нашы, і парламента, і Прэзідэнта, гэта будзе не на карысць краіне. Мы зноў пойдзем у высвятленне адносінаў. Я баюся, калі на першай сесіі пачнуць высвятляць адносіны: чаму М. Грыбу не далі слова, чаму іншым не далі слова...

**— Гэта сапраўды цікава: а чаму вы ўсё ж не далі слова М. Грыбу перад выбарамі?**

— У нас згодна з пастановай Цэнтрвыбаркома і Указам «Аб роўных магчымасцях» (можа, гэта і дрэнныя дакументы, не буду гаварыць, але яны існуюць) дакладна акрэслена, што выбарамі займаецца мясцовае радыё.

**— Але ці мог выступіць па тэлебачанні старшыня дзеючага парламента?**

— Гэта асобная размова — дзеючага ці не...

**— Але калі будзе ўжо выбраны новы спікер — ён будзе мець магчымасць выступіць па дзяржаўным тэлебачанні?**

— Будзе. Я сёння зацікаўлены ў нармальнай рабоце з парламентам, у цывілізаваным супрацоўніцтве. Я нават падрыхтаваў прапановы па асвятленню першай сесіі. Я разумею, што частка дэпутатаў узніме пытанне: давайце асвятляць сесію — адну ці дзве гадзіны ў дзень у самы лепшы час. Але ў нас існуюць тры раўназначныя галіны ўлады: выканаўчая, судовая, заканадаўчая, чаму іншыя не прымаюць такіх пастаноў? Мы прапануем цывілізаваныя нормы ўзаемадзеяння, і калі парламент пагодзіцца, я быў бы проста задаволены. Мы не жадаем наладжваць інфармацыйную блакаду парламента, а хочам, каб формы падачы матэрыялаў былі самыя розныя: і пра камісіі, і пра прэзідыум, і пра фракцыі, і пра працу ў міжсесійны перыяд. Тая форма, якая была навязана старым Вярхоўным Саветам тэлебачанню, для нас непрымальная. Я супраць яе і як кіраўнік ТБ, і як яго глядач. Паўтары-дзве гадзіны палітычных разборак кожны дзень — гэта занадта для беларускага гледача.

**— Такім чынам, як вы намерваецеся асвятляць першую сесію ВС?**

— Мы вывучалі адпаведны сусветны вопыт. Звычайна адкрыццё першай сесіі новага парламента трансліруецца ў прамым эфіры тэлебачання і радыё, робіцца грунтоўная справаздача. Пазней работа парламента асвятляецца некалькімі інфармацыйнымі перадачамі. Закон прынялі — мы растлумачым гэта гледачу, не спрэчкі, але сам закон... мы прапаноўваем новаму Вярхоўнаму Савету рабіць штотыднёвую перадачу «Парламенцкі веснік» ці «Парламенцкая гадзіна», дзе дэпутаты маглі б падвесці вынікі самі ж, мы можам нават падзяліць гэты час па фракцыях. А ў міжсесійны перыяд трэба адлюстроўваць дзейнасць прэзідыума і камісій... Я думаю, што Вярхоўны Савет павінен пагадзіцца з такімі прапановамі. Калі не, то я буду гэта лічыць спробай з самага пачатку пайсці на канфрантацыю. Я супраць таго метаду асвятлення сесіі, які быў прыняты ранейшым парламентам. Адзін дзень працы тэлебачання ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета каштуе 50 мільёнаў рублёў дзеля гадзіннай справаздачы ў вячэрнім эфіры.

**— Вернемся да ўласна тэлевізійных праблем. Скажыце, чаму так шмат памылак стала ў дыктараў, вядучых?**

— Гэта балючае пытанне, мы займаемся ім, запрашаем спецыялістаў, арганізоўваем курсы беларускай мовы. Нават пад пагрозай звальнення прымушаем вучыцца. Проста сорамна. Я ўжо кажу, калі не можаце, дык давайце на рускай мове некаторыя перадачы весці. Але мы ж не хочам так, нашы перадачы павінны быць на беларускай мове.

**— Скажыце, а якая моўная палітыка ў вас вядзецца пасля рэферэндуму? Уведзена двухмоўе, калі меркаваць па тым, што частка перадач стала сапраўды рускамоўнай?**

— Двухмоўе і раней было, яно склалася ў практыцы тэлебачання. Потым ужо адбыўся рэферэндум... На гэтым этапе нам патрэбны перш за ўсё добрыя перадачы, змест, а ўжо пасля мы гэтаму нададзім беларускую форму. Наконт двухмоўя нам ніхто ніякіх пастаноў, указаў ці заданняў не даваў. Журналісты могуць рабіць перадачы на рускай, на беларускай мове, але каб яна была чыстая, каб не было пытанняў на беларускай, а адказаў — на рускай мове, ці мяшанай мовы, ці памылак...

**— Вы сказалі, што ўказанняў не было... А хто ўсё-такі кіруе кіраўніком тэлебачання?**

— Я ўзаемадзейнічаю з уладамі, як усюды. Справа ў іншым: у правільным узаемадзеянні з уладамі, разуменні і ўладамі, і журналістамі нейкай мэтазгоднасці, неабходнасці тых або іншых матэрыялаў, кірункаў... У гэтым праблема, а не ў тым, хто пазваніў, а хто не званіў.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ ВЫЛУЧЫЛІ КРАЎЧАНКУ

У чацвер адбыліся пасяджэнні Каардынацыйнага камітэта Сацыял-дэмакратычнага саюза і дэпутацкай фракцыі сацыял-дэмакратаў. Нечаканым для многіх можа паказацца рашэнне фракцыі вылучыць свайго кандыдата на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета. Дэпутаты пагадзіліся з кандыдатурай Пятра Краўчанкі, былога міністра замежных спраў. Як паведаміў кіраўнік фракцыі Леанід Сечка, гэта рашэнне было прынята па рэкамендацыі Каардынацыйнага савета СДС і ў сувязі з жаданнем членаў фракцыі весці актыўную работу ў Вярхоўным Савеце. Парламент, на думку сацыял-дэмакратаў, у першую чаргу павінен займацца балючымі справамі людзей, і таму сацыял-дэмакратычны спікер мог бы накіраваць увагу дэпутатаў на прыярытэтнае вырашэнне сацыяльных праблем краіны.

Адначасова, як падкрэсліў Л. Сечка, фракцыя СДС праводзіць актыўныя кансультацыі і перамовы з фракцыямі іншых партый з мэтай хуткага і якаснага фарміравання кіраўніцкіх і рабочых структур парламента. Плённымі названы перамовы з фракцыяй аграрыяў.

— Справа абрання спікера — гэта справа перамоў, кансультацый і ўзаемных кампрамісаў, узаемнай павагі фракцый. І наша фракцыя будзе працаваць менавіта так, — зазначыў намеснік старшыні Партыі народнай згоды Леанід Лойка. Таму, відавочна, нельга гаварыць аб тым, што сацыял-дэмакраты будуць настойваць толькі на спікерскай пасадзе для свайго прадстаўніка. У Вярхоўным Савеце, паводле папярэдніх звестак, пакуль што прадстаўлена 16 дэпутатаў ад СДС, агульная колькасць фракцыі можа вырасці да двух дзесяткаў.

Леанід Лойка, акрамя таго, паведаміў, што кіраўніцтву Партыі народнай згоды не вельмі падабаецца, што іншыя палітычныя колы ўзялі сабе за назву слова «Згода» (маецца на ўвазе ўтварэнне такой фракцыі пад кіраўніцтвам У. Грыгор'ева). А. Лойка лічыць гэта нетактоўным, аднак ён мяркуе, што гэтая фракцыя хутчэй будзе выкарыстоўваць слова «согласие», а не «згода».

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

***

Карэспандэнт «Звязды» задаў Пятру Краўчанку некалькі пытанняў.

**— Пётр Кузьміч, наколькі істотна праграма дзейнасці вашай фракцыі адрозніваецца ад праграм іншых фракцый левага напрамку — аграрыяў і камуністаў?**

— Па-першае, наша фракцыя — фракцыя дзяржаўнікаў. Яна стаіць на пазіцыях умацавання суверэннасці, незалежнасці Беларусі. Па-другое, мы надаём значную ўвагу вырашэнню сацыяльных праблем, і асабліва выпраўленню тых перакосаў, якія ўзнікаюць ў апошні час. Напрыклад, відавочнай памылкай я лічу адмену з 20 лістапада мінулага года выдзялення бясплатнага жылля для некаторых катэгорый сацыяльна неабароненых грамадзян, і перш за ўсё для інвалідаў з дзяцінства. Многія краіны, у тым ліку тыя, што ўзялі арыентацыю на Захад, клапоцяцца пра сваіх грамадзян значна больш. Напрыклад, у Чэхіі для інвалідаў бясплатна выдзяляецца ад 2 да 4 працэнтаў жылля ў новых будынках. У нашай жа краіне, ліквідуючы шмат сапраўды лішніх, непатрэбных ільгот, па-мойму, перагнулі палку. Існуе і многа іншых сацыяльных праблем, якія патрабуюць неадкладнай пільнай увагі парламента.

**— Як, на Вашу думку, складуцца першыя дні працы парламента?**

— Відавочна, сваю працу Вярхоўны Савет пачне з выбараў кіраўніцтва, і найперш — старшыні парламента. Думаю, у першым туры выбраць спікера не ўдасца — сапернiцтва будзе вельмі жорсткім. Я выступаю за тое, каб вырашэнне кадравых пытанняў максімальна скараціць у часе. Бо перад парламентам стаяць неадкладныя праблемы жыцця краіны. І ў першую чаргу — абмеркаванне і прыняцце бюджэту на 1996 год. Гэта адзін з галоўных інструментаў уздзеяння заканадаўчай улады на выканаўчую.

**— Шэраг парламенцкіх фракцый, у тым ліку камуністы, аграрыі, «Грамадзянскае дзеянне», у апошнія дні мінулага года у спецыяльнай заяве падтрымалі старшыню Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіню, выступілі супраць націску на суд і сілавых метадаў вырашэння палітычных праблем. Чаму Сацыял-дэмакратычнная фракцыя ўстрымалася ад рэакцыі на гэту сітуацыю?**

— Прычына ў тым, што наша фракцыя не здолела сабрацца ў тыя апошнія переднавагоднія дні. Многім нашым дэпутатам, каб дабрацца з рэгіёнаў у Мінск, патрэбна нямала часу. А ўвогуле мы, безумоўна, выступаем за строга законны шлях выхаду з любых спрэчных сітуацый і не прымаем ніякага грэбавання канстытуцыйнымі нормамі.

**— Як Вы ацэньваеце факт стварэння новай фракцыі «Згода» ў Вярхоўным Савеце, якая аб'яднала больш як шэсць дзесяткаў дэпутатаў і ўжо вылучыла кандыдатам на пасаду спікера Вячаслава Кебіча? Вы не лічыце, што яна стане ўплывовай прэзідэнцкай фракцыяй?**

— Магчыма, трэба да яе яшчэ прыгледзецца. А ўвогуле, я лічу, стварэнне фракцый — зусім нармальны, натуральны працэс. Структураваны парламент здольны на больш эфектыўную працу.

**— Каго вы лічыце сваім найбольш верагодным сапернікам у барацьбе за крэсла спікера?**

— Думаю, што гэта Вячаслаў Кебіч, Сяргей Калякін, Сямён Шарэцкі, Васіль Саковіч, Уладзімір Ганчарык, Іван Каратчэня, Мечаслаў Грыб і яшчэ некалькі асоб. Мяркую, колькасць прэтэндэнтаў можа скласці 10—12 чалавек.

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО.**

# ЗАЯВА

## АРГКАМІТЭТА ГРАМАДСКАЙ ПАДТРЫМКІ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Адышоў у мінулае 1995 год. Бадай, галоўнае, чым ён быў азнаменаваны для грамадзян Беларусі, — гэта захаваннем грамадзянскага міру і сацыяльнай стабільнасці. Нягледзячы на жорсткую і часам справядлівую крытыку, маладой палітычнай камандзе, якую ўзначальвае А.Р.Лукашэнка, удалося пераламаць негатыўныя тэндэнцыі, запаволіць тэмпы інфляцыі, захаваць спакой на вуліцах і адносны дастатак у дамах грамадзян. Рэспубліка цвёрда трымае курс на збліжэнне з Расіяй і іншымі брацкімі краінамі СНД. Мы лічым, што ў мінулым годзе Аляксандру Рыгоравічу ўдалося яшчэ раз пацвердзіць званне «народнага палітыка» і «народнага прэзідэнта». Аб гэтым сведчаць вынікі апытанняў грамадскай думкі, праводзімых незалежнымі даследчыкамі. Яны паказваюць, што і сёння большасць беларускіх грамадзян аддалі б свае галасы за А.Р.Лукашэнку, калі б зноў адбыліся прэзідэнцкія выбары. На наш погляд, гэта — прызнанне грамадствам правільнасці выбранага кіраўніцтвам краіны шляху.

Аргкамітэт ствараемага ў рэспубліцы Камітэта грамадскай падтрымкі Прэзідэнта, ад імя больш як 1400 грамадзян, якія выказалі жаданне прыняць удзел у рабоце гэтага грамадскага аб'яднання, прапануе назваць Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку самым папулярным палітыкам 1995 года.

На нашу думку, грамадскае прызнанне будзе дастойнай узнагародай першаму Прэзідэнту нашай краіны за яго нялёгкую, упартую працу, рэальнай ацэнкай яго заслуг перад Рэспублікай Беларусь і народам, які выбраў яго на гэту высокую пасаду.

**Старшыня аргкамітэта Г.І.ЧАЙКОЎСКІ.**
**Сакратар Е.А.СІМАХОДСКАЯ.**

## СУЧАСНЫЯ МЕМУАРЫ

# МАЯ АРМІЯ

НЯДАУНА (не помню дзе) прачытаў пра выпадак з чачэнскай эпапеі. Афіцэр, камандзір роты, у прысутнасці салдат-першагодкаў гвалтаваў чачэнак. Трэба думаць, выхоўваў у салдацікаў цвёрды мужчынскі характар. Гэта не самы страшны, вядома, факт. Ёсць больш жудасныя. Напрыклад, п'яныя воіны вешалі чачэнскіх хлапчукоў. У час перапынку школьных заняткаў. На дроце.

Успамінаю сваю службу, сваю армію і разумею, што ўвогуле ўсё зразумела. Страшна, дзіка, але зразумела. Заканамерны вынік.

У 1995 годзе споўнілася 15 гадоў, як я звольніўся ў запас. Хочаш не хочаш, думкі часта круціліся вакол арміі. Чачэнская вайна, бы камертон, настройвала на пэўны лад. Востра хацелася дашукацца прычыны: чаму сённяшняя армія часта нагадвае банду разбэшчаных забойцаў? Чаму былі магчымы Афганістан, Баку, Тбілісі, Вільнюс? Толькі з-за падонкаў-генералаў, ці як? У прынцыпе, разважаў я, генерал не стаіць побач з кожным байцом, калі тыя сапёрнымі лапаткамі сякуць налева і направа. Генерал аддаў загад, няхай злачынны па сваёй сутнасці, але выконваюць яго салдаты і афіцэры. Іншы раз занадта творча.

Адкуль яны такія бяруцца? Можа, вывелі нейкую асаблівую папуляцыю людзей, можа, мутанты нейкія? Наўрад ці. «Вышли мы все из народа...»

КАРАНЦІН мне запомніўся сяржантам Малініным. Раней я такіх не сустракаў. Мне ўсё здавалася: гэтага чалавека нечым моцна пакрыўдзілі. У прынцыпе, так яно і было. Праўда, я гэта зразумеў потым.

З Малініным у нас адносінаў не атрымалася. Пасля першай сутычкі я цвёрда яму паабяцаў: «Ну, сука, я цябе сустрэну на «грамадзянцы»...» Столькі гадоў прайшло, а нічога, аказваецца, не забыта. Калі б сустрэў, відаць, і набіў бы морду. А можа і не.

Любімым пакараннем сяржанта Малініна была: адпрацоўка каманды «Пад'ём!». У дзве, тры гадзіны ночы, калі сніш сёмы сон. Паважаў таксама страявыя заняткі і развучванне ротнай песні. Твар у яго быў пры гэтым зверскім, а вочы — бялелі. Верагодна, Малінін ужо быў псіхічна хворы.

Мне, прызнаюся, было цяжка ўвайсці ў гэта тупое жыццё па камандзе, мат-перамат, бясконцыя пастраенні, вечны крык. Афіцыйна каранцін называецца «курс маладога байца». Г. зн. цывільнага ў прынцыпе чалавека трэба падрыхтаваць да ваеннай службы. Падрыхтоўка заключалася ў муштры. Да канца месяца прыстойны здаровы хлопец ператвараўся ў неўротыка. Са страхам думалі: «Калі тут такое, то што ў палку?»

Праўда, некаторыя не вытрымлівалі, зрываліся ўжо ў каранціне. У суседняй роце хлопец кінуўся на сяржанта. Яго збілі ноччу, у прыбіральні, дзе ён адпрацоўваў нарад па-за чаргой. Білі ўтраіх і вельмі прафесіянальна — слядоў не пакінулі. Скардзіцца хлопец, вядома, не асмеліўся... Справу пахавалі.

А месца было прыгожае. Мястэчка Меджыбаж, старая крэпасць (тут, кажуць, здымалі вядомы фільм па раману Бяляева з такой жа назвай), ціхія грабавыя лясы, каменныя агароджы, зялёныя ўзгоркі, — Ніжняя Падолія, Заходняя Украіна. Усяго гэтага, праўда, для нас не было. Самыя дурныя ўжо зразумелі, што іх чакае. А менавіта: два гады жыцця, якое мала нагадвае чалавечае. Найбольш тонкія натуры разумелі і іншае: застацца чалавекам у такіх абставінах даволі цяжка. Ці ты з'ясі, ці цябе. Толькі так.

ЧАСЦЬ НАЗЫВАЛАСЯ — 7-я Запарожская ордэнаў Суворава і Хмяльніцкага ракетная дывізія. Полк — 429-ы. Камандзір — падпалкоўнік Забарны. Дыслакацыя — горад Хмяльніцкі (былы Праскураў), прыгарад Ракава, ваенны гарадок.

Пяцігадовы тэрмін падпіскі аб невыдаванні ваеннай тайны скончыўся 10 гадоў назад і я выдаю. Тым больш, мая дывізія стала дывізіяй украінскай арміі.

Дывізія ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння — крыху незвычайная. У ёй 10 палкоў, у кожным палку — 10 балістычных ракет, тры роты, усяго каля 150 чалавек асабовага саставу.

Месца, дзе стаіць шахта з ракетаю, называецца кропкай. Шахта ахоўваецца каравулам з двух воінаў — сяржанта і радавога. Тры ці чатыры дні яны сядзяць у бетонным кубе з пультам, дзе высвечваецца сістэма аховы «кропкі». Першая лінія — проста сетка, потым — сістэма «Шчыт», сістэма «Радыян», зноў сетка, нарэшце, галоўны сюрпрыз — электразагарода, якая працуе ў трох рэжымах — 700, 1500 і 3000 вольт.

За ўсім гэтым металам размяшчаецца каравул — з бронешторамі, процігранатнай сеткай на вокнах, наверсе — металічная вежа з кулямётам Калашнікава танкавым (моцная машына), аптычным прыцэлам начнога бачання, гучнай сувяззю, па якой крычыш: «Стой! Страляць буду!» Яшчэ ў каравуле два АКМы з запасам патронаў, гранаты, патроны для кулямёта, ракетніцы і інш.

Ёсць спальня з двух'ярусным ложкам, кухня, прыбіральня. Жыць можна. Ваяваць — не. Грозным усё гэта нам здалося, калі першы раз трапілі на «кропку» на стажыроўку. Чым далей, тым смяшней было. Вопытнаму «камандас» спатрэбілася б хвіліна, каб пераадолець усе перашкоды. Адзін трапны стрэл з «базукі» і баявы каравул выключаны. Захоплівай ракету, рабі з ёю што хочаш. А можна і прасцей: пры пуску ракеты даць па корпусу чаргу з ручнога кулямёта — і яна ляснецца не ў штаце Фларыда, ЗША, а недзе ў Атлантыцы.

Міжволі задумваешся: а на фіга ўсё гэта? Самае галоўнае, усе — ад камандзіра палка да салдата гаспадарчай каманды радавога Голада — гэта разумелі. Большасць воінаў «забівала» на службу. Стараліся маладыя афіцэрыкі ды тыя, хто хацеў пайсці на дэмбель старшым сяржантам ці старшыной. Праўда, гэта была не служба — выслужванне. Тут галоўнае — мець бравы выгляд, бегаць на паўсагнутых, ці, як у нас казалі, прыгінацца, і не саромецца «стукаць» на аднапалчан. Гэта, бадай, асноўнае.



Увогуле, служылася камфортна. Я, напрыклад, браў на БД (баявое дзяжурства) пяць-шэсць кніжак і ўсе прачытваў. Маладым баяўся, а крыху паслужыўшы — спаў за пультам. Там была хітрая шыльдачка — «аператар». На камандным пункце націскалі кнопку, у мяне на пульце загараўся «аператар», я на працягу трох секунд павінен быў націснуць сваю кнопку. Не — значыць, сплю, тры нарады па-за чаргой, заўвага камандзіру разліку і інш. Паспеў — ахоўваю мірны сон краіны пільна і ў адпаведнасці са статутам.

Славяне, праўда, насабачваліся пазбягаць непрыемнасцей: заклінівалі кнопку запалкай — і спалі далей.

Ды і тое сказаць, на «кропкі» ніхто не нападаў. Бывала, на электрасетку трапляла ўсякая лясная жывёла, раўла сірэна на пульце, а пры змене разлікаў байцы збіралі «ўраджай». Аднойчы забрыла нават карова і пагеройску загінула на подступах да каравула. Карову адвезлі на камандны пункт і з'елі.

Восенню на «кропках» збіралі апенькі. Прапаршчыкі вывозілі іх мяхамі.

Іншы раз здараліся трывогі. Салдаты звычайна ведалі пра іх за тыдзень. У ноч трывогі ніхто не спаў, клаліся ў ложкі апранутымі. Напярэдадні старшына выстаўляў у калідоры рэчавыя мяшкі, за гадзіну да трывогі адкрывалі аружэйныя піраміды. Усё роўна дурасці і неразбярыхі хапала.

Бывала, трывогі заканчваліся пастраеннем на пляцы. Бывала, везлі ў месцы дыслакацыі, дзень-два ваявалі: сядзелі па шэсць чалавек у каравуле, дурэлі ад суму і цеснаты.

Аднойчы, праўда, мне пашанцавала, трапіў у штурмавую групу. Нам выдалі па магазіну халастых патронаў, пасадзілі ў транспартны верталёт і паставілі баявую задачу: «вораг» атакуе «кропку», трэба дапамагчы разліку.

Верталётчык, як заўсёды, нешта пераблытаў, і мы трапілі не на тую «кропку». Заклалі віраж, нехта з воінаў заўважыў унізе «ўазік» нампаліта Мінгалёва. Яго ў палку не любілі. Калі верталёт зноў лёг на баявы курс, байцы далі дружны залп. Роў верталёта і трэск аўтаматных чэргаў непасрэдна над галавою зрабіў на нампаліта патрэбнае ўражанне: згубіўшы шапку, ён ірвануў у кювет і забурыўся ў снег па плечы. Яго вадзіцель потым расказваў, што ў падпалкоўніка пасля кідка ў кювет штаны на вядомым месцы былі падазрона цёмныя...

Так мы служылі.

БАЦЬКА расказвае: на вайне не было «дзедаўшчыны». Старыя салдаты апякалі маладых, дзяліліся пайкай, тытунём, асаджвалі гарачых. Гэта мне зразумела: перад смерцю ўсе роўныя — якая можа быць «дзедаўшчына»? Да таго ж, па ўзростах гэта была армія бацькоў і сыноў. Ці можна тыраніць свайго сына?

У нас усё было па-іншаму. Помню першыя тыдні ў палку. Вызначальнае пачуццё: нечалавечы тлум, асабліва вечарам, калі ўсе заняткі скончаны, афіцэры разышліся па дамах, старшына закрыўся ў капцёрцы і ты застаешся адзін на адзін з усімі.

Ты — «сынок», «салабон», «малады». І адна думка: «Хутчэй бы адбой», — застацца аднаму, закрыцца коўдрай, нічога не бачыць, не чуць. Кожны можа на цябе гыркнуць, ударыць, прымусіць рабіць нешта, — урэшце, проста прынізіць. У страі, сталовай ты заўсёды павінен быць першым, зацягнутым так, што перахоплівае дыханне. Што не так — удар па нырках, «пад дых». Стой, салабон, не плач, слёзы не дапамогуць. Капі, сынок, злосць, нянавісць, прыйдзе твой час — будзеш ты зверам.

Існаваў дакладны «табель аб рангах»: «сынок», «агурок» — паўгода службы, «фазан» — год, «дзед» — паўтара, «запас» — два гады, пасля «загаду». «Дзед» ажыццяўляе нагляд за «фазанамі», тыя — за «агуркамі», «агуркі» правяць службу над «маладымі», «салабонамі». Метад правераны — кулак. І тут галоўнае — выстаяць першыя паўгода. Метад, зноў жа, адзіны. Калі я без сведак счапіўся з асабліва ненавісным «агурком» на лесвіцы і спусціў яго на два пралёты ўніз, пры гэтым папярэдзіўшы, што «ў наступны раз заб'ю, а там няхай судзяць», то мяне сталі баяцца — «ціхі, ціхі, але шалёны».

У нечым жыццё аблегчылася, у нечым ускладнілася. Я, увогуле, не хаваў сваіх пачуццяў. Гэта было небяспечна — неаднойчы спрабавалі збіць — але не дазваляла апусціцца. Гэта быў бы канец. Да канца службы не злезлі б з карка. У прынцыпе, усё тое ж, што і на «зоне». «Паханы» — «дзяды», «прыблатнёныя» — «фазаны», «шасцёркі», «фраеры» — «агуркі», «мужыкі» — «салабоны». Поўная аналогія. А камандзіры — гэта «вохра», «попкі».

Я звярнуў увагу: нават пасылкі дзеляцца «па-блатному» — лепшае забірае «дзед» і далей па ранжыру. Тое ж з амуніцыяй. Маладым выдаюць новую форму, потым яна пераходзіць да «дзеда», яму на «дэмбель», у яго, калі быў маладым, таксама забралі «парадку» і чаравікі: «Ну ты, сынок, блін, давай мяняцца? Не хочаш? А чаму, сынок ты...? Бум-бум! Ну што, сынок, згодзен?»

Вельмі і вельмі нямногія праходзілі праз гэта сіта без адчувальных страт. Даслужыўшы да «фазана», ціхі забіты салдацік пачынаў гырчаць на маладых. Чым больш яго ў свой час білі, тым больш біў і ён, — заканамернасць жалезная.

Мне неяк удалося захавацца. Маладыя называлі мяне «татам» і «шэфам». Наколькі можна, я іх апякаў, бывала, счапляўся са сваім прызывам. Мне было агідна прыніжаць такіх жа. Мой прыклад, праўда, нехарактэрны, выключэнне з правілаў. Правіла было: бі і ганяй маладых, інакш біць будуць цябе.

У гэтым, між іншым, былі зацікаўлены і афіцэры. Не кажучы пра старшын. Барацьба з «дзедаўшчынай», якая раз-пораз аб'яўлялася ў дывізіі, абмяжоўвалася гутаркамі з маладымі ў капцёрцы: «Так, Іваноў, хто табе «ліхтар» падвесіў? Сам ударыўся? Ты, Іваноў, не пужайся, раскажы, мы яго пакараем...» Іваноў маўчыць. Ведае Іваноў: адно слова — і з ім «разбяруцца». Лепш Іванову цярпець. Бо кампанія пройдзе, і той жа старшына будзе гаварыць сяржантам: «Што такое, таварышы камандзіры? Чаму маладыя абарзелі? Дзе служба, маць вашу так?!»

Мая армія трымалася на кулаку. Мая армія рыхтавалася вешаць і гвалтаваць...

МНЕ ДЗІЎНА было чуць, чытаць шматлікія выказванні апошняга часу: «Божа, што гэта за армія?! Ці вучылі яе ваяваць?!» Той, хто так кажа, верагодна, не служыў. Інакш ведаў бы: у нашай арміі ваяваць вучаць у апошнюю чаргу. Мне смешна ўспамінаць вучэнні, баявыя стрэльбы. На стрэльбішча мы хадзілі раз у два месяцы. Нам выдавалі па пяць патронаў: два прыстрэлачныя, тры — асноўныя. Гранату мы кідалі адзін раз за два гады. Пры гэтым адзін баец ледзь не падарваў сябе і прапаршчыка, які сядзеў з ім у акопе.

Сапраўдныя вучэнні з атакамі і манеўрамі былі толькі аднойчы. Самага дрэннага сяржанта закідалі выбуховымі пакетамі. Месяц ён хадзіў з абпаленым тварам.

Чым жа, спытаеце вы, займаліся абаронцы Айчыны? Уборкай. Ці то казармы, ці тэрыторыі вакол яе, ці пляца. Яшчэ — сядзелі на палітзанятках і канспекгавалі прамовы тав. Брэжнева Леаніда Ільіча. Але ў асноўным — убіралі.

Помню, чакаўся прыезд галоўкома РВСП, маршала артылерыі. Прыкладна тыдзень дывізія стаяла на вушах. Нашаму палку даверылі мыць пляц. Ехала палівальная машына, ліла ваду, мы стройнымі радамі ішлі за ёю і маскіровачнай сеткай сцягвалі ваду. Памылі. Прыгрэла сонейка, асфальт высах — зноў пыл і бруд. Камандзір дывізіі скрывіўся: перамыць! Зноў едзе машына, ідуць з сеткай салдацікі.

Іншыя палкі чысцілі і фарбавалі ўсё, што можна пачысціць і пафарбаваць: збудаванні, платы, падлогі, вокны, траву. Асобны полк збіраў на тэрыторыі ваеннага гарадка «бычкі». Наш старшына па мянушцы «Вэнджаны» пайшоў далей за ўсіх: прымусіў зняць з паркету стары лак і нанесці новы. Пасля гэтага загадаў хадзіць у казарме ў шлёпанцах. Што ж, хадзілі.

Я так зразумеў: асноўная задача — каб салдат не сядзеў без работы. Верагодна, выраз — «капай адсюль і да абеду» — мае армейскае паходжанне. Любімае выказванне нашага «Вэнджанага»: «Вось сядзіць баец у кутку, займаецца ананізмам... А ты вазьмі мяцёлку, падмяці падлогу!» Чым не «зона»?

Так, гэта было 15 гадоў назад. Але аднойчы ў поездзе пагутарыў са служывымі. Божа мой, усё тое ж, усё тое ж... Нібы ў маладосць вярнуўся. Мая, мая армія...

УЧЭХАВА ЁСЦЬ: калі зайца доўга біць, дык ён запалкі навучыцца запальваць. А калі чалавека? Чалавек навучыцца біць іншых чалавекаў. А калі яму даць аўтамат, патроны і загадаць: «Уперад, сынок! Бі ворага!», то мы атрымаем Афганістан ці Чачню. Ужо атрымалі.

Дрэнны закон: у нашай арміі можна было выслужыцца толькі на чужых касцях. Гэта стала правілам. Гэта і зараз правіла. Калі я чую: камандзіры пасылаюць у бой непадрыхтаваных хлопчыкаў і яны гінуць дзесяткамі, то разумею, што камандзіры па-іншаму не ўмеюць. Іх так вучылі. 50 гадоў прайшло пасля апошняй вайны — усё забылі, нічому не навучыліся. Усё, як заўсёды: спачатку горы трупаў, потым цяжкае пахмелле і пошукі вінаватых...

Помню, аднойчы ехалі з дзяжурства, спыніліся на паўдарозе. Ішоў ссівелы дзядок. Ішоў і, пранізліва аглядаючы машыны з воінамі, гаварыў:

— Акупанты, каб вас ліхаманка ўзяла...

Яму, канешне, адказвалі адпаведна:

— Бандэра недабітая!

Але да палка чамусьці ехалі моўчкі. Можа, у гэтым справа? Можа, падсвядома мая армія разумела, для чаго яна такая патрэбна?

Нішто бяследна не праходзіць. Раскіданае некалі каменне трэба збіраць.

Калі ў Венгрыі душылі людзей танкамі, то чаму нельга забіваць іх сапёрнымі лапаткамі ў Тбілісі? Калі людзей можна страляць у Чэхаславакіі, то чаму іх нельга вешаць у Чачні?

Збіраем каменне...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# «ЯК ГЭТА НЕДАРЭЧНА — КАЛІ ПАЭТУ БОЛЬШ ЗА 40 ГАДОЎ!..»

## Потым, праз паўзу, з прыязнай усмешкай ён удакладніў: «Аднак у мяне ёсць яшчэ крыху часу...»

**Прызнаюся, было нечаканасцю пачуць гэтыя словы ад паэта-рамантыка Леаніда Дранько-Майсюка. Хацелася запярэчыць: хіба сапраўдны ўзрост чалавека вызначаецца пражытымі гадамі? Можна ж адчуваць сябе састарэлым і ў дваццаць...**

**Напрыканцы 1995 года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў новы зборнік Дранько-Майсюка «Стомленасць Парыжам» (наклад усяго 2 тыс. экземпляраў, але, як мне сказалі, для беларускай паэзіі і гэта нямала). Можа, самотныя выказванні паэта пра хуткае развітанне з Паэзіяй акурат і звязаны з тым, што стомленасць Парыжам пералілася ў стомленасць ад жыцця?**

**Паглядзім, паглядзім...**

### Паэтычна-ўзроставая мяжа

— Мусіць, меў рацыю Дастаеўскі, калі ў адным з раманаў напісаў: як гэта недарэчна — калі мужчына жыве больш за 40 гадоў. Пісьменнік не меў на ўвазе менавіта паэтаў, ён гаварыў увогуле, аднак... Калі набліжаецца гэтая ўзроставая мяжа, той рамантызм, які яшчэ прысутнічае ў душы, пачынае ўраўнаважвацца абачлівасцю. І гэтая абачлівасць не тое што з кожным годам, а з кожным месяцам, кожным тыднем усё менш і менш робіць цябе паэтам — і нібыта схіляе да думкі: трэба мяняць жанр. Можна пісаць мемуары, прозу, лісты і г.д. Калі тонкія лірычныя струны пераходзяць у басовыя (незаўважна для цябе!), дык, мусіць трэба ласкава развітацца з паэзіяй.

— Няўжо і сапраўды існуе гэтая паэтычна-ўзроставая мяжа?

— Безумоўна! Да 40 гадоў паэты (калі яны Паэты) пішуць лепшыя свае творы. А далей ужо пачынаецца не спеў, а крык. Успомніце Янку Купалу, любога іншага паэта...

— Аднак не ўсе заўважаюць «мяжу»?

— Існуе пэўны накат, інерцыя — і вершы пішуцца, пішуцца, пішуцца... У выніку атрымліваюцца шматлікія паўторы. Але ж Паэзія жыве не паўторамі, а эмацыянальнымі штуршкамі — існуе дзякуючы «юнаму» ўзросту... Калі працуеш у выдавецтве, гэта цудоўна адчуваеш.

— Спадар Леанід, чытаючы вашы вершы, не хочацца нават і думаць, што вы збіраецеся развітацца з паэзіяй!

— У мяне ж ёсць яшчэ два гады...

### «Богі любяць дзяцей»

— Мусіць, я невылечны рамантык, бо перакананы: бог Апалон, гледзячы з Алімпа на літаратурную карту, найбольшае святло выдаткоўвае беларускай паэзіі. Магчыма таму, што наша паэзія ў сваім артыстычным выяўленні — самая маладая. А богі любяць дзяцей... Акрамя таго, упэўнены, беларуская паэзія сінанімічная беларускай мове: раслінка пачынаецца з аднаго зерня, але выходзіць у дзве сцяблінкі, якія так знітаваны, што тут ужо цяжка падзяліць паэзію і мову... Увогуле, ужо адным сваім існаваннем паэзія ратуе Беларусь, родную мову...

### «Бяда паэтаў, што каханак яны робяць жонкамі»

Будучыя настаўніцы, студэнткі педінстытута засыпалі паэта пытаннямі — каб вывесці яго «на чыстую ваду». Крыху збянтэжана слухалі спадара Леаніда — гаварыў ён надта вольна, непрадказальна для... педагагічных сцен.

— Вы кахаеце сваю цудоўную А. — а як жа жонка?

— А хто вам сказаў, што цудоўная А. — канкрэтная асоба?..

— Вы, сваёй паэзіяй!

— Увогуле, жанчына лепш за ўсё выяўляецца не ў сям'і, а ў моманты «пагранічныя».

— А ваша жонка?

— Таксама! Што, яна не жанчына?!. Бяда паэтаў у тым, што яны сваіх каханак ператвараюць у жонак. Быт, сям'я забіваюць каханне.

— Каханне каханнем, але ж згодна з рэлігійнымі канонамі пралюбадзейства — грэх!

— Я жыву паводле правілаў антычнай Грэцыі, дзе



харaство жанчыны лічылася найвышэйшай мерай. Прыгожай жанчыне было дазволена ўсё...

— Ці можа мужчына адразу кахаць некалькіх жанчын?

— Калі ён гэта робіць прыгожа, калі ад гэтага ніхто не пакутуе, — чаму не?

— Якія жанчыны вам больш падабаюцца?

— Упэўнены, у кожнай жанчыны ўсё ёсць — толькі ў адной больш пераважае Настасся Піліпаўна Дастаеўскага, а ў другой, скажам, купалаўская Паўлінка. Гэтыя розныя струны настолькі блізка дакранаюцца і гучаць — нават незаўважна для самой жанчыны!.. Але ж яна сама сябе робіць — жанчына можа стаць і анёлам, і...

### Рэцэпт натхнення (гумарыстычны?)

— Упасці раніцай на падлогу і адцiснуцца 60 разоў, а потым прачытаць 20—30 старонак прозы Тургенева. І вось што цікава — пасля такіх фізічных намаганняў ні Джойс, ні Кафка, ні Мележ «не чытаюцца». Толькі Тургенеў! Гэта такая радасць, такая асалода... Такім чынам я дачытваю ўжо шосты раман і баюся, што хутка перачытаю ўсяго Івана Сяргеевіча і не знайду яго прозе інтэлектуальнай замены...

### Ці прайшла стомленасць Парыжам?

— Мусіць прайшло. Парыж памяняўся на Менск. Менавіта на Менск! Так я называю цэнтральную частку Мінска. Калі пахадзіць па нашых вуліцах, уважліва ўгледзецца ў горад — у ім ёсць штосьці парыжскае. Варта толькі аднавіць старыя назвы... Так што стомленасць Парыжам перарасла ў стомленасць Менскам.

І, напэўна, не выпадкова? Ёсць жа ў Дранько-Майсюка радкі:

*У стомленасці ёсць тваё імя.*
*Стамляючыся, ноч тваю сустрэну...*

І яшчэ:

*Мая душа не плача, а пяе,*
*Бо стомлена не лёсам, а табою.*

Чамусьці з'явілася ўпэўненасць, што паэтычны спеў не залежыць ад узроставай мяжы. Ці я памыляюся?..

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

**Фота Анатоля КЛЯШЧУКА.**

### Вершы з кнігі «Стомленасць Парыжам»

***

Я назвы такой не дарыў!
Дэльханіум — назва, як спазма,
Якая ўтварае нарыў
У горле надзеі экстазнай.

Дэльханіум — назва нябёс,
Што ў сінія лейкі струменяць
І новых паэзій і проз
Глыбокае жывяць карэнне...

Ты ведаеш ночы і дні,
Жывыя цярпеннем і бытам.
Забыўшы пра ўсе камяні,
Схіляешся над хрызалітам, —

Нібыта над лёсам сваім,
І гэта невыпадкова:
Дэльханіум каменем тым
Маё ўмацоўвае слова...

Жыла ты за светам-душой,
На дне аравійскага пылу,
Стамлёная назвай чужой,
Аднак жа сваёй не забыла.

Дэльханіум нельга забыць,
Бо ў назве ягонай дыхтоўнай —
Табе прыгажуняю быць,
А мне тваім ценем ахоўным.

*17 ліпеня 1995*

***

Я палюбіў дарогу начную
І палюбіў з нядаўняй пары
Рызыкі яснай тканіну льняную
Накідваць на вулічныя ліхтары.

І ў разуменні, што гэты занятак,
Пэўна, вар'яцкай душы акурат —
Я між вар'ятаў усіх і вар'ятак
Самы шчаслівы на свеце вар'ят.

Я растлумачу, што значыць вар'яцтва —
Гэта, кранўшы мінулае тло,
Шчыра каханай жанчыне прызнацца
Колькі ў цябе некаханых было.

Потым раскайвацца —
жартам спытала,
Жартам і свой напаіў бы адказ...
Позна. Сляза налілася металам.
Стаў непрыступны алькоўны атлас.

Позна. Вяртайся асфальтавым долам,
Свечкі трамвайнай губляючы бліск.
Ноч не ўратуе Чырвоным касцёлам,
Домам Урада, гасцініцай «Мінск»...

Цемру любі і дарогу начную,
З рызыкай яснай зайдзі ў казіно
Выйграць настрой,
каб тканіну льняную
На дарагое накінуць акно.

*5 снежня 1993*

***

Ласкавасцю тваёй не наталіцца,
І ў лебядзіным возеры тваім
Мне чуецца, і мроіцца, і сніцца
Расстання нашага ерусалім.

Што мне пакінеш?! Сум і прахалоду,
Якімі давядзецца з году ў год
Паэзію славянскага зыходу
Аплакваць, павярнуўшыся на ўсход.

Не здолею пазбегнуць гэтай страты
І толькі зразумею, што паэт
Перад каханай вечна вінаваты
І свет яго — штодзённа страты свет.

Пакуль яшчэ магу цябе крануцца, —
У лебядзіным возеры тваім
Няхай мае жаданні застануцца
Да старасці, да смерці — назусім.

Калі адтуль твая прыбудзе вестка,
Асветленая радаснай тугой, —
Я адкажу цяплом начнога Менска,
Бо толькі ноч дае мне супакой.

Да паэтычнай глухаты гатовы,
Сатру з аблічча эстэтычны грым,
І лепшыя мае патонуць словы
У лебядзіным возеры тваім.

*17 кастрычніка 1993*

***

Раса ярчэй, калі яе ў трывогу,
Нібыта ў футарал, пакласці
І на лісці засмучанага глогу
Настояць незасмучанае шчасце.

І можна суцяшаць сябе давеку,
І збіцца з лёсу, нібы
збіцца з тропу,
Заходзячы ў расу, як у аптэку,
Пацвельваючы кожную хваробу;

І ведаць — для душы
тады адхланне,
Калі над ёю думка праплывае:
Дзіця бывае познім, а каханне
Ніколі познім не бывае;

І бацькаву прыпамінаць падказку:
«Збіраючыся на каханне-гулі,
Рабі заўсёды той дзяўчыне ласку,
Якую ўсе забылі, прамінулі...»

А ты — не тая. І не я, а ты мне
Даеш усё ад ласкі да пакуты,
Ваду ў маўчанні, акавіту ў гімне...
Куды ж яшчэ імкнуцца мне?!
Нікуды.

І ўсё ж адно імгненне застанецца,
Калі надыдзе раптам пустата —
Галінку глогу апусціць у сэрца,
Не вырываючы яе з куста.

*12 чэрвеня 1993*

***

Я перамог антычную галечу
І выплакаў вясёлую слязу,
Таму слязой Авідзія засведчу,
Што страціў найвысокую красу.

Аб закаханасці, такой лагоднай,
Аб радасці, з якою жыў раней, —
Не расказаць мне мовай
сваёй роднай,
Ні дыялектам, што яшчэ радней.

Дзіця гарода — на гарод забыўся,
У прывідныя кінуўся сады.
Маё дыханне, поўнае мелісы,
Ляўконія плыве ў мае сляды.

Не праведнік, але яшчэ й
не злодзей,
Я — той, каму пашчасціла
спазнаць:
Жанчына адыходзіць,
як стагоддзе,
І я хачу стагоддзе затрымаць.

І вось адплата мне —
расчараванне,
Дыханне ўкрыта пыльнаю мукой,
І я асуджаны на вечнае выгнанне
У ноч душы, у кніжны неспакой.

Я спадзяюся, што мяне ўлагодзіць
Авідзій сумны выракам сваім:
«Жанчына адыходзіць,
як стагоддзе —
Кахай яе і ў вобразе такім».

*18 снежня 1992*

*Паэзія без жаночай увагі знікае. Дарагія жанчыны, памятайце пра гэта і кахайце беларускіх паэтаў...*

*Л. Дранько-Майсюк*

## СУСТРЭЧА З ПЕСНЯЙ

# НАВАГОДНЯЯ СВЕЧКА

*Мы дажылі да першае зімы,*
*Да першай радасці марознай...*

— па-дзіцячаму даверліва і адначасна асцярожна, з аглядкаю на мітуслівую рэчаіснасць, што тчэ-разбурае пачуццёвыя палотны, выказваецца Леанід Дранько-Майсюк, ахоплены трызненнямі ў мроях закаханасці.

Аднак зіма, што шэранем ахутвае не толькі палеткі, сады і паркі, па перакананню паэта, адступае перад нязгасным полымем любові:

*Мы не бачыліся цэлае каханне,*
*На маёй трывозе — сівізна.*
*Там, дзе ўспомню я тваё дыханне,*
*Там і пачынаецца вясна.*

Гэтыя і іншыя радкі-прызнанні склалі даволі аб'ёмны (чатыры з паловай дзесяткі!) цыкл вершаў, прысвечаных загадкавай асобе, так і пазначанай у зборніку «Акропаль» (1994) — «Маёй цудоўнай А.»...

Верш «Навагодняя свечка» напісаны крыху пазней, на сумежжы 1993 і 1994 гадоў. Сваёй танальнасцю ён прадаўжае названы цыкл і прысвечаны той самай чароўнай А., якая па-ранейшаму хвалюе і трывожыць паэта. Аднак у адрозненне ад цыкла, дзе пачуццёвасць разліта, віруе, перапаўняе, захліствае душу, тым самым наганяе сумненні-перажыванні ў трываласці адносінаў, тут — вынікі падсумаванне нястомных пошукаў, неаслабнага замілавання:

*Што нам дамы і што кавалеры!*
*Залатая прайшла даўніна...*
*Ёсць у нашай маленькай кватэры,*
*Ёсць усё — ад агню да віна.*

Каханне і паразуменне, зімовыя акалічнасці і веснавая агністасць — у суладдзі!..

Вершы цыкла засталіся пакуль яшчэ «няпесеннымі» (яны чакаюць кампазітарскага прачытання, каб увасобіцца ў музыку). «Навагодняя свечка» стваралася з разлікам на песню. Леанід Дранько-Майсюк уяўляў яе ў выкананні ансамбля «Сябры». Трывалыя эстэтычна-сяброўскія адносіны наладзіліся паміж паэтам і ўдзельнікамі ансамбля. Анатоль Ярмоленка з запалам, з жартаўліва-іранічнай весялосцю спявае «Беларускую польку», дзе паэтычны тэкст Леаніда Дранько-Майсюка акрылены мелодыяй Ігара Лучанка. Мікалай Сацура паклаў на музыку яго шчымліва-разважлівы верш «Анатоль», што таксама з поспехам выконваецца ансамблем. Таму верш-прысвячэнне «Навагодняя свечка» Леанід прынёс менавіта да «Сяброў».

Песня атрымалася. Мікалай Сацура знайшоў музычныя сродкі, каб вобразна перадаць затоеныя ў тэксце пачуцці, каб узрушанай, крыху элегічнай мелодыяй абудзіць успаміны, каб напоўніць прамяністым хваляваннем кахання сэрцы ўсіх тых, хто судакранаецца з песняй.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## НАВАГОДНЯЯ СВЕЧКА

*ВЕРШ Леаніда Дранько-Майсюка*

*МУЗЫКА Мікалая Сацуры*

Дамы стомлены, спяць кавалеры,
Высыхаюць азёры віна,
А на нашым стале два фужэры,
Два фужэры і свечка адна.
*Прыпеў:*
Запалі навагоднюю свечку
І шампанскім крышталь абудзі,
І, нібы на маленькую вечнасць,



На блакітную свечку глядзі.
Што нам дамы і што кавалеры!
Залатая прайшла даўніна...
Ёсць у нашай маленькай кватэры,
Ёсць усё — ад агню да віна.
*Прыпеў.*
Ах вы, дамы, і вы, кавалеры!
Ах, паэзіі вашай струна —
Засталіся ад вас два фужэры,
Два фужэры і свечка адна.
*Прыпеў.*

# ШТО Ж ТАК УПАРТА ШУКАЛІ БОЛЬШ СТАГОДДЗЯ, НА ПРАЦЯГУ ДЗВЮХ СУСВЕТНЫХ ВОЙНАЎ, ВОЙСКІ КАЙЗЕРА І ГІТЛЕРАЎЦАЎ?

**ГІСТОРЫЯ СКАРБАЎ НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА ВЕЛЬМІ ЦІКАВАЯ. Магутны і старажытны род князёў Радзівілаў ва ўсе часы здабываў, скупляў, заваёўваў, праўдамі (але больш няпраўдамі) набываў у многіх частках свету рэдкія каштоўнасці і творы старажытных майстроў з высакародных металаў. Аб скарбах князёў Радзівілаў хадзілі легенды.**

Рускі князь М. В. Рапнін, які суправаджаў у 1785 годзе караля Польшчы С. А. Панятоўскага на пасяджэнне сейма ў Гродна, пісаў імператрыцы Кацярыне II:

«Кароль заехаў да К. С. Радзівіла ў Нясвіж. Пасля бліскучага феерверка і абеду на 300 персон кароль спусціўся ў падзямелле замка і ўбачыў зліткі золата, складзеныя да скляпення падзямелля. Золата было сотні пудоў, мноства старажытных залатых рэчаў і 12 апосталаў з гэтага металу і серабра, усыпаных каштоўнымі камянямі».

Любаваўся скарбамі Радзівілаў і былы міністр замежных спраў Расійскай імперыі князь А. Е. Чартарыйскі, апісаўшы гэта ў мемуарах, выдадзеных у Парыжы ў 1887 годзе: «Багаты замак у Нясвіжы. У 18 залах адных толькі ўпрыгажэнняў сабрана на 5—10 мільёнаў дукатаў. Каштоўныя калекцыі зброі, карцін, кніг, брыльянтаў. Але няма нічога даражэйшага за калекцыю «12 апосталаў». Пяць з іх з чыстага золата і ўсыпаны каштоўнымі камянямі. Кошт іх роўны кошту золата, затрачанага імператарам Напалеонам на Егіпецкі паход».

Аб залатых і сярэбраных скульптурах дванаццаці апосталаў у рост чалавека пісаў у сваіх мемуарах і М. Агінскі ў Варшаве ў 1868 годзе:

«Гэтыя статуі яны (Радзівілы) вазілі з сабой. Калі прагуляюць дзеці захочуць здабыць новыя маёнткі, то закладваюць аднаго з 12 апосталаў, але заўсёды потым выкупляюць назад».

Аб скарбах Радзівілаў паведамлялася і ў IX томе Расійскага поўнага геаграфічнага апісання нашай Айчыны, выдадзеным у 1905 годзе:

«Захавалася, між іншым, павер'е, што тут былі схаваны рэдкія масіўныя сярэбраныя статуі 12 апосталаў, багацейшы архіў з многімі асабістымі пісьмамі еўрапейскіх манархаў, а таксама важныя дакументы з гісторыі Заходняй Русі, асабліва Беларусі, Літвы і Польшчы. Акрамя таго, тут былі дыпломы, прывілеі, граматы, сапраўдны акт уніі і була папы Урбана XII. Куды ўсё гэта знікла, невядома».

Адкуль маглі ўзяцца гэтыя нябачаныя багацці Радзівілаў? Жорсткая эксплуатацыя стагоддзямі паднявольных сялян абагачала князёў. Не саромеліся магнаты займацца і адкрытым разбоем. Выкарыстоўвалі і аферы...

У вайне Расіі з Літвой, у панаванне Аляксея Міхайлавіча, бацькі Пятра I, вялікі гетман літоўскі Радзівіл, разбіты рускім войскам пад Оршай і Шкловам, уцёк у Вільню. Там ён аб'явіў, што тыя з багатых людзей, хто не спадзяецца захаваць свае каштоўнасці ад рускіх войскаў, могуць даверыць іх для захоўвання яму, князю Радзівілу.

Сотні гараджан даверылі вераломнаму гетману свае скарбы. Ён пагрузіў іх у свой абоз, прыхапіўшы адначасова казну горада, царкоўныя скарбы, і ўцёк. У яго крадзенай калекцыі аказалася сярэбраная грабніца з мошчамі святога Казіміра вагой у 300 фунтаў, выкрадзеная ў кафедральным віленскім касцёле.

Гетман-казнакрад змог выйсці сухім з вады, зваліўшы ўсё на казакоў, якія быццам бы захапілі яго абоз і абабралі яго да ніткі. Але праз год грабніца аб'явілася ў Пружанах і была прададзена... віленскаму кафедральнаму сабору — ранейшаму ўладальніку яе — за прыстойную суму.

Што датычыць «12 апосталаў», то наконт гэтага ёсць некалькі версій. Адна з найбольш праўдападобных сцвярджае, што «евангелістаў» прывёз з крыжовага паходу адзін з князёў Радзівілаў. Гэта версія пацвярджаецца тым, што, сапраўды, сын князя Мікалая Сіроткі — Сігізмунд-Карл, прыняты ў Балоны (Італія), быў рыцарам Мальтыйскага ордэна. У 1609 годзе з дазволу яго гросмайстра ён стварыў у Сталовічах (непадалёку ад Баранавіч) камандорства, адкуль зрабіў паходы разам з крыжаносцамі на Канстанцінопаль. Крыху пазней па патрабаванню Расіі камандорства разбойніцкага ордэна было распушчана, але да гэтага з Канстанцінопаля былі вывезены 12 каштоўных скульптур евангелістаў (апосталаў).

У 1759 годзе статуі былі асвечаны ў Ватыкане, а іх уладальніку выдадзена грамата, па якой Радзівілы атрымалі бесперашкодны доступ у рэзідэнцыю папы ў любы час.

У 1771 годзе калегія фарнага езуіцкага касцёла ў Нясвіжы, радавой усыпальні князёў Радзівілаў, запатрабавала майстра з варшаўскага сабора святога Яна для рэстаўрацыі вялікага мастацкага палатна «Тайная вячэра», якое займала ўсю алтарную частку храма. Мастакам спатрэбіліся мадэлі апосталаў. Ім прадаставілі 12 апосталаў з золата і серабра. Якім жа вялікім было іх здзіўленне, калі яны ўбачылі поўную ідэнтычнасць статуй і кампазіцыі «Тайнай вячэры» Леанарда да Вінчы ў Міланскім манастыры Санта-Марыя дэ ла Грацыя. Майстры былі ўзрушаны, але факт гэты ніяк растлумачыць на маглі...

У канцы XVII—пачатку XVIII стагоддзя шайка разбойнікаў спрабавала завалодаць каштоўнымі статуямі. Гэта вымусіла Радзівілаў пайсці на падлог: былі вылеплены з воску 12 копій апосталаў. Іх упрыгожылі каштоўнымі камянямі так вытанчана, што нельга было адрозніць ад сапраўдных. Васковыя скульптуры былі выстаўлены ў Блакітнай зале Нясвіжскага замка разам з васковымі фігурамі пакараных разбойнікаў, якія ўчынілі замах на святыні. Так у Беларусі ўзнік першы музей васковых фігур — намнога раней, чым музей мадам Цюсо ў Лондане.

**Міхаіл БАКУМЕНКА.**





# СКАРБ ВАС ЧАКАЕ

## Магчыма, і на вашым агародзе закапаны чыгун з залатымі манетамі

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫ на Беларусі яшчэ не перавяліся. Часам выдаюцца новыя. Адна з апошніх — «Археалогія і нумізматыка Беларусі» — і дае вычарпальную інфармацыю аб тым, што ёсць скарб. Дакладней — скарб манетны: «...грашовая сума ў выглядзе манет, выключаных з абарачэння і схаваных у тайніку (часцей у зямлі). У мінулым звычайны спосаб захоўвання грошай, якім карысталіся найчасцей у часы грамадзянскіх узрушэнняў (аблог, міжусобіц, паўстанняў і інш.)». А паколькі перадумоў — войнаў, нашэсцяў, рэвалюцый — на Беларусі хапала, значыць, і скарбаў, пэўна ж, у нашай зямлі прыхавана, мне думаецца, нямала. На ўсю Беларусь ёсць толькі адна крыніца самай цікавай, самай прыцягальнай інфармацыі — Міхаіл Мікалаевіч Бакуменка. Выдадзеная некалькі гадоў назад яго кніга «Скарбы ў полымі вайны» знікла з паліц кнігарань у вокамгненне. І з кім жа тады, як не з Міхаілам Бакуменкам, і гутарыць пра скарбы, што хаваюцца ў беларускай зямлі.**

***— Міхаіл Мікалаевіч, а вось скажыце ўсю праўду. Ці можаце вы ўласнымі рукамі знайсці скарб?***

— Па-першае, дазвольце не пагадзіцца адносна рук. Прысутнасць скарба цяжка вызначыць з дакладнасцю да дзесяткаў метраў, а па-другое, калі ісці ўслед за статыстыкай, то абсалютная большасць знаходак — усяго толькі яе вялікасць выпадковасць. Словам, у гэтай справе баль спраўляюць пані Удача і спадар Выпадак.

Мяне цікавіць агульнаінфармацыйны бок справы. Праз збор інфармацыі пра скарбы, мяркуемае іх месцазнаходжанне я стараюся пераказаць шматпакутную гісторыю Беларусі.

Праўда, не вы першы, хто імкнецца падштурхнуць мяне да практычных дзеянняў. Часам, пасля чарговай публікацыі ў друку, да мяне звоняць з пытаннямі накшталт: «А вы можаце паказаць, дзе знаходзіцца зараз памянёны вамі скарб?» Нават не спрабуючы высветліць, хто гэта такім чынам турбуецца пра лёс Айчыны, пачынаю ветліва тлумачыць, што на тыя ці іншыя раскопкі патрэбен дазвол археалагічнага ўпраўлення. Да таго ж патрэбна ведаць заканадаўства, нават, калі шчаслівы выпадак сам паклаў вам у рукі неспадзяваны скарб.

***— Здаецца, у царскай Расіі ўладальнікам скарбаў прызнаваўся землеўладальнік. У СССР жа, ды і цяпер у нас — дзяржава....***

— Скажу вам болей. У свой час у Міністэрстве ўнутраных спраў СССР мелася цэлае структурнае падраздзяленне, якое займалася выключна скарбамі. Там, канешне, у меншай ступені займаліся зборам, аналізам архіўнай інфармацыі, затое актыўна адсочвалі землярыйныя работы на месцах раскопак, там, дзе нават навока можна было спрагназіраваць прысутнасць, наяўнасць скарбаў.

***— Дарэчы, колькі прыблізна скарбаў знаходзяць на Беларусі штогод?***

— Раней можна было сцвярджаць з істотнай доляй верагоднасці — 10—12 скарбаў у год. Наўрад ці сёння паменшылася гэтая лічба. Але ж змянілася сацыяльная, грамадская сітуацыя. Знайшоўшы скарб, чалавек як быццам выпрабаванне праходзіць — здаць дзяржаве ці пакінуць сабе.

***— І калі хто не вытрымае, то наносіць страту, урон не толькі сённяшняму матэрыяльнаму дабрабыту дзяржавы...***

— Безумоўна. Асабліва гэта тычыцца старажытных скарбаў. Калі нехта перахаваў, а не вярнуў у шырокі свет дзесятак-два рымскіх манет, то ён нанёс немалую шкоду навуцы. Археолагі, гісторыкі не атрымаюць фактычнага пацвярджэння пэўнай версіі. Наступныя пакаленні так і не даведаюцца пра гандлёвыя сувязі Беларусі, напрыклад, з Рымам. Тут ужо на шалі кладуцца розныя паняцці — матэрыяльнае і, калі хочаце, маральна-гістарычнае.

***— Прабачце, Міхаіл Мікалаевіч, за настойлівасць, але ўсё ж такі карціць спытацца і пра практычны бок справы. Ці існуе на сённяшні дзень пэўная тэхналогія пошуку скарбаў?***

— Калі вызначаць месца інфармацыі як першую прыступку ў пошуку старажытных, даўно і параўнальна нядаўна прыхаваных багаццяў, то, вядома ж, існуюць і наступныя прыступкі. Важную ролю іграе ўвогуле гістарычная адукацыя шукальнікаў. Трэба — не больш і не менш — прыпадобніцца да следчых-крыміналістаў мінулай эпохі, эпохі мяркуемага хавання скарба. На Беларусі сёння важныя два накірункі — пошук багаццяў, пакінутых Напалеонам, і багаццяў Радзівілаў. Вось уявіце сабе, што вы заняліся напалеонаўскімі скарбамі. Якую логіку пошуку і з чаго пачняце выбудоўваць? Думаеце, вам шмат у чым дапамогуць дзённікі сучаснікаў? Дык яны ж, французы, тады яшчэ, пасля 1812 года, спытаўшы дазволу ў расійскага цара, прыязджалі шукаць. І што з таго!? Безвыніковымі атрымаліся пошукі. Хавалі, закопвалі ў адну пару года, а прыехалі праз колькі гадоў, дык і мясцовасць дакладна ўказаць не могуць. Вось зараз адно і трэба — дакладны маршрут, па якому французы адступалі. Патрэбна веданне сутычак, баёў. Як правіла, закопвалі, прадчуваючы самыя горшыя варункі. Да таго ж могуць быць і арыенціры. На той вайне сапраўдным багаццем лічыліся гарматы. Дзесяткі з іх знайшлі свой прытулак у беларускіх балотах. Французы не проста кідалі іх, а хавалі. Вось каля знойдзеных гармат трэба кожную грамульку зямлі перытрэсці. Поспех чакае самых упартых.

Што тычыцца радзівілаўскіх скарбаў, то іх пошук немагчымы без спецыяльнай тэхнікі, без інтраскопаў. Але выкарыстанне іх — рэч вельмі дарагая. Дарэчы, дарагоўля ўласціва ўсякаму мэтанакіраванаму пошуку. Неяк адна з нямецкіх фірмаў прапанавала ўзяць пошук скарбаў Радзівілаў на сябе. І, вядома ж, не бескарысліва. У якасці аплаты прапанавалі падзяліцца будучымі знаходкамі.

***— Скарбы — свайго роду люстэрка, выразнае сведчанне пэўнага часу, расповяд пра тое ці іншае папярэдняе нам пакаленне. У вас сабрана унікальнае дасье на сотні раней знойдзеных скарбаў. Пра што яны гавораць? Ці вымалёўваюць нейкім чынам партрэты сваіх першых гаспадароў?***

— Ужо само матэрыяльнае вымярэнне знойдзенага сведчыць пра людзей, якія мелі некалі дачыненне да прыхаванага, як ім здавалася, на час. Медныя манеты знайшлі — значыць, трапіў да вас у рукі набытак сціплага рамесніка. Пару і болей кілаграмаў залатых манет — гэта ўжо колішняя ўласнасць багатага купца. Дарэчы, скарбы па сваёй волі аддавалі зямлі, як правіла, самі іх збіральнікі. Украдзенае, па-грабежніцку адабранае на дарозе, разбойнік не імкнуўся захаваць, зберагчы, утрымаць пры сабе. Увогуле, упэўнены, перакананы, што на Беларусі скарбаў хапае і акрамя радзівілаўскіх «12 апосталаў», і акрамя напалеонаўскіх, сабраных самым грабежніцкім чынам па сотнях цэркваў. Магчыма, і на ўласным агародзе вас чакае сапраўдны скарб. Варта толькі глыбей апусціць лямеш плуга — і вы адразу зачэпіцеся за нешта металічнае. Мо гэта і будзе тая пачарнелая ад часу патэльня, што служыць накрыўкай для чыгуна з залатымі манетамі. Шукайце — і абавязкова нешта знойдзеце.

**...Пагутарыўшы з шукальнікам-тэарэтыкам, энцыклапедыстам «скарбавых навук», я прыгадаў запісанае пісьменнікам Уладзімірам Ягоўдзікам паданне. Неяк незнаёмец папрасіў рыбака перавезці яго на востраў і паказаць старадаўняе Азярыйскае гарадзішча. А ўжо сцямнела. Рыбак не згаджаўся. Але незнаёмец даў яму сярэбраны рубель. І толькі яны падняліся на вяршыню гарадзішча, як рассунуліся трое жалезных дзвярэй, паказаўся патаемны склеп. Незнаёмец і рыбак увайшлі. А там на крэсле — невыказнай прыгажосці князёўна. Каля ног яе, па абодва бакі, — куфры, паўнюткія залатых і сярэбраных грошай. Незнаёмец нагроб сабе мех і выйшаў. Рыбак таксама падаўся за ім. А пра сябе падумаў: «Прыбягу сюды заўтра днём, стану першым багацеем ва ўсёй ваколіцы».**

**Назаўтра рыбак вярнуўся на гарадзішча. Ды толькі ўжо ні золата, ні срэбра, ні склепа таго за жалезнымі дзвярыма — нічога, словам, не знайшоў. Як і раней, горбіўся старадаўні земляны насып, у многіх месцах пакапаны шукальнікамі зачараваных скарбаў.**

**Чалавек ужо сам па сабе істота багатая. І кожны з нас носіць у сабе скарб. Варта толькі разгледзець яго, прымусіць, каб заззялі, зазіхацелі нашы ўнутраныя срэбра і золата. Апантаны і працавіты Міхаіл Мікалаевіч Бакуменка знайшоў усё ж такі свой скарб. Ён — у веданні гэтым чалавекам найцікавейшых калізій пра скарбы розных часоў, многіх краін. Найперш — пра скарбы Беларусі. Зараз Міхаілам Мікалаевічам падрыхтаваны рукапісы чатырох кніг. Выдаўцы раўнадушныя да багатых на адкрыцці, а часам і сенсацыі тэкстаў. Значыць, і мы, чытачы, не спрычынімся да невядомага дагэтуль багацця. Няўжо і мы застанёмся без скарбаў...?**

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***Да ўвагі чытачоў! Літаральна ў бліжэйшых нумарах «Звязда» пачынае друкаваць адну з новых кніг Міхаіла Бакуменкі. Чытайце. І галоўнае — ...шукайце.***

ТРАГЕДЫЯ

# ...І НЕ СПІЦЦА ПА НАЧАХ АД ЦІШЫНІ...

**СЛОВАМ «Чачня» сёння можна пужаць не толькі дзяцей. І гэта правільна. Але самі жыхары маленькай рэспублікі падаюцца нечакана спакойнымі, прыветнымі і незвычайна ўсмешлівымі. Здаецца, і няма вайны! Усе трымаюцца так, што слёзы, сварка, лаянка нібыта не маюць ніякіх адносінаў да тутэйшай чалавечай супольнасці. Тут, дзе ўсе з'яднаны агульнай бядой, усе нешта страшнае перажылі, такія з'явы — вялікае выключэнне. Толькі часам за знешнім спакоем і дагледжанасцю мільгане знерваванасць, але часцей — гэта проста цень стомленасці, якая надзіва хутка пераходзіць калі не ў аптымізм, то ў нейкі асаблівы стан ці пачуццё, назваць і растлумачыць якое на нашым «шчаслівым Захадзе» адразу немагчыма.**

**Сёння тлумачыць і ўвогуле «разумнічаць» мне, як ніколі, не хочацца. Таму і не буду. Навошта? Проста прыгадаю сёе-тое, што ўбачылася з абочыны вайны. Астатняе кожны здолее зразумець неяк па-свойму...**



У жыцці, напэўна, не бывае выпадковасцей. Толькі што начальнік вакзала ў Мінводах разводзіла рукамі, не ведаючы нічога пра нармальны, звычайны расклад цягнікоў. Поезд да Грознага будзе паўдня і ноч стаяць на рэйках? Электрычка праз тры гадзіны можа паўтарыць яго лёс? Нехта з-за гэтага не паспее ў час вярнуцца дадому (як, напрыклад, мы), а тут адказ на ўсё: распараджэнні ваеннага камандавання!..

Потым вадзіцелі прыватных рэйсаў вагаюцца: ехаць — не ехаць? Папярэджваюць натоўп з сумкамі, пакетамі і скрынкамі: «Мы рызыкуем. Могуць абстраляць...» А могуць і не абстраляць. Натоўп толькі павялічваецца. Я вартую нечыя сумкі. Мой калега перацягвае некаму скрынкі. Пытанне аб тым, як улезці ў цёмна-сіні, злёгку пашарпаны «Ікарус» са шчыльнымі, цёмнага колеру фіранкамі на вокнах, вырашаецца само сабой. Сядзенні, сумкі на праходзе, запасная пакрышка для кола амаль «у хвасце» — усё нішто, падыдзе для размяшчэння. Паралон зверху, вось толькі пыльны. Дзяўчаты-чачэнкі нешта раяць мне на гэты конт, але, як заўжды, выратоўваюць у любой сітуацыі любімыя газеты. Што там пад рукою? «Имя», «Звязда»? Ну і, як кажуць, нармалёва! Замест спінкі — нейкая мяккая сумка... Люблю камфорт і ўтульнасць!

Не паспяваю даследаваць з акна пейзаж — станіцы, палі, мірныя агеньчыкі, што ўжо блішчаць дзе-нідзе, — нейкі агульны вокліч напаўголасу. Нішто сабе! Тэлевізар? Тут?!

У «Вестках», нарэшце, знаходзім тлумачэнне ўсяму дарожна-транспартнаму бардаку. Ужо тры дні Грозны — закрыты горад. Туды, кажуць, не пускаюць журналістаў...

Ну вось, а так добра ўсё пачыналася!

Сярэдніх гадоў чачэнка, што сядзіць на сумках, нагадвае царыцу Тамару. Яна ўсміхаецца мне. Дзяўчаты, што ззаду весела гамоняць, цягнуць за рукаў курткі. Нейкі час, частуючы адна адну ў каго чым знайшлося, мы гутарым з імі. Я гавару ім пра іх землякоў у Мінску. Пра тое, як часам даводзіцца «шугацца» ад тамтэйшых каўказскіх хлопцаў...

— Нашы хлопцы!.. — раптам ускліквае адна. — Яны не дрэнныя, не! — больш у дзяўчат няма слоў.

І ў мяне няма. Нават з-за патрыятызму я пра нашых вось так не сказала б...

Да Грознага шлях — гадзін шэсць. Большасць гэтага часу едзем без асаблівых прыгод. Час ад часу старыя чачэнцы ўперадзе раяцца, куды лепш збочыць. Транспарту сустракаецца даволі шмат. У станіцах і іншых паселішчах вуліцы як вымерлі, толькі гараць агні ў вокнах дамоў... Чым далей, тым часцей ідылію псуюць далёкія стрэлы і чэргі. Нашы спадарожнікі, што сядзяць побач, пазіраюць на гэта з філасофскай памяркоўнасцю. Дзяўчаты перакідваюцца ціхімі жартамі са словамі «федэральныя войскі». Па тэлевізары пачынаецца «Добрай ночы, малышы». Сёй-той пазяхае пад акампанемент чэргаў.

А вось гэта, здаецца, сур'ёзна. Бачна па позірках. «Граніца Расіі з Чачнёй», — кажа мне «царыца Тамара». У адчыненыя дзверы ўсоўваецца галава ў чорнай шапцы (падобныя носяць ледзь не ўсе тутэйшыя):

— Куды? Паварочвайце назад! Прадстаўнікоў прэсы, часам, няма? Калі ёсць, далей не паедзеце, — тон «галавы», здаецца, не пацерпіць ніякіх «але». — Але... Калі няма — 200 тысяч, і ўсё!

Не смешна. Але я даўно спаўзла з кола і газеты «Имя». Мой калега ў гэткай жа шапачцы, як у начальніка расійскай міліцыі, параіў «схаваць сваю славянскую мардаху». Зашыўшыся ў капюшон, я цішком душуся ад смеху пад усмешкі чачэнак. Праўда, зусім нядоўга... Правяраюць дакументы. Пужаць і страляць надакучыла.

— Журналістка?! — вочы начальніка робяцца вялікімі. Здаецца, непрытворна. — Асобая размова! — ён пагрозліва хавае стос дакументаў у кішэню.

— А ты што тут робіш?

Выслухаўшы мяне, ён раптам сур'ёзна пытаецца:

— Дык выбары адбудуцца ў нас ці не?

Паціскаю плячыма...

«Асобая размова» адбываецца сам-насам, побач з блок-пастом, у пакойчыку з кратамі. Дзяўчаты спачувальна пытаюцца. Знаёмімся. «Вы паедзеце, а мы будзем спаць тут і ўсю ноч ім надакучаць!» — з усмешкай злуюся я. Роза і Аза красамоўна пазіраюць у бок аўтаматчыкаў. Тыя стаяць купкай. Пачынаюць раптам даставаць мандарыны: «На дарогу!» Божа, каму мы тут патрэбны, у гэтым полі, паміж акопаў?!

Тым часам мой калега спрабуе давесці спадару начальніку, што запатрабаваныя ім візы нам, беларускім журналістам, не патрэбны.

«Тут жа Расія!» — «Ну і што? Межы ў нас з вамі адкрытыя». Спадар начальнік упіраецца. Відаць, што не з дурняў. Можа, патрыёт незалежнай Чачні?..

— Вось яшчэ! Чаму я павінна ісці па свой пашпарт? — пагардліва ўскідвае галаву дзяўчына-студэнтка. І іншыя (моладзь — асабліва) трымаюцца так: маўляў, я — у сябе дома, баяцца вас не збіраюся. Гонару шмат для вас! Аўтаматчыкі не звяртаюць увагі.

Пачапляўшыся яшчэ з гадзіну да нечай прапіскі ў Калмыкіі, начальнік кідае ў наш бок:

— Значыць, будзеце сведкамі самавольства ўладаў над мясцовым насельніцтвам? — адварочваецца і задумліва дае доўгую чаргу ў поле. Невядома чаму супакойваюць яго калегі і падначаленыя — проста так, для парадку. Дзякуй за клопат аб маім душэўным стане!

На наступным прыпынку ні дакументы, ні рэчы не правяралі. Усмешлівы чачэнскі міліцыянер нешта доўга тлумачыў. Нядаўна нас абагналі некалькі легкавых аўтамашын. Адну з іх расстралялі з лесапаласы людзі ў камуфляжы. Чацвёра загінулі. Мірныя жыхары.

Размовы на тэму «праскочым—не праскочым» заканчваюцца начлегам у полі каля блок-паста. Усё прайшло спакойна, калі не лічыць некаторыя амаль смешныя недарэчнасці. Тэлевізар ператварыўся ў відэа з амерыканскім баевіком на экране. У Грозны мы трапілі ў сем гадзін раніцы...

Зранку стала нашмат весялей. Уся аўтобусная галёрка валілася ад смеху. Фаціма распавядала пра смешныя прыгоды бежанцаў у Маскве, а самай вялікай была дыскусія пра НЛА (неапазнаныя расійскія самалёты, якія ніяк не знойдзе расійская ж пракуратура). «Прыязджайце, паглядзіце на нашыя вёскі!. Хто ў вас на Беларусі цікавіцца прышэльцамі з космасу?» Другая дзяўчына ўзгадала наш учарашні «шмон»:

— Ён мне кажа: «Глядзі толькі, не выходзь замуж за баевіка!» (Смех.) А я яму: «Што вы! Баевікі? Яны ад нас такія далёкія!» (Выбух рогату.)

Была на нашым дарожным сходзе закранута і тэма выбараў (іх назвалі, здаецца, абсурдам паміж двух агнёў). І генерала Раманава, якога, як і Шкірко, добра «падставілі».

(Як скажуць потым прадстаўнікі расійскіх органаў улады ў Чачні, а іншага меркавання і быць не можа...» Можа!)

Жыхарам Чачні, нават рускім, зусім несалодка ў іх вымушаных вандроўках удалечыні ад радзімы. Патлумачыць яны гэта могуць прыкладна так: «Што нам тая Масква!» або: «Не магу я спаць ноччу, калі не страляюць». — Так проста і з красамоўнай усмешкай...

Без усмешкі пашкадуюць расійскіх салдат на зваротным шляху:

— Бедныя, на каго іх тут пакінулі! Прамерзлыя, галодныя... Затрымае на выездзе з горада і кажа: «Прывязі хлеба, калі будзеш ехаць назад».

Без усмешкі раскажуць, як рускія забівалі рускіх, як чачэнцы выразалі яўрэйскую настаўніцкую сям'ю, як рэпрэсіравалі ў сталінскія часы тых, хто бурыў тут нафтавыя свідравіны, якія зараз так не хочацца аддаваць вялікай Расіі. Гэтак жа сур'ёзна паведамяць аб «легендах Каўказа». Самая знакамітая з іх — на тэму «латышскія стралкі», або «белыя ласіны». Жаночы стралковы батальён з Латвіі. Маўляў, адна забіла расійскага афіцэра — разарвалі танкамі. Слухаць трэба пабольш, інакш ніколі не адрозніш, дзе праўда, а дзе «легенды».

...У Грозным, горадзе перакрыжавання кантрастаў, з бурымі плямамі бранятэхнікі на белым снезе, са шкілетамі старых дамоў у сонечным святле, ніяк нельга было не наведаць адно месца — паўразбураны палац прэзідэнта Дудаева. Вельмі сімвалічнае і грандыёзнае відовішча. Крокаў за дваццаць ад яго змучаны і нібыта злосны стары пажадаў мне як мага хутчэй трапіць у рай за тое, што падала́ на хлеб. Калі мы агледзелі развaленыя лесвіцы (са сцен, дарэчы, нехта акуратна садраў уцалелыя мармуровыя пліткі), на ганку да нас падышлі двое хлопцаў з аўтаматамі. Незразумелыя дакументы яскрава пацвердзілі ім, што мы з Беларусі. У каторы раз — прыемныя словы: «Беларускім журналістам можна давяраць!» Калі што здарыцца, чачэнскія хлопцы збіраюцца дапамагаць сваім. На іх баку змагаліся нашы суайчыннікі. Як і на другім. Стралялі адзін у аднаго...

На цягнік «Кіславодск—дамоў» спазняцца было нельга. Заўчасны ад'езд здаваўся ледзь не здрадай і ўцёкамі. Некалькі гадзін таму слухалі, як маскоўскаму тэлеаператару ледзь не разбілі камеру ў Гудэрмесе. Цяпер аўтобус памчыць нас «па слядах і назад» — з Грознага ў Маздок, а яны ўсе тут застануцца...

Дарэчы, выпадкова ці не, але роўна праз тыдзень з машынай НТБ — аўтакатастрофа. Двое забітых, двое — з траўмамі. На маіх вачах навінамі гэтай кампаніі з Чачні былі нездаволены Зорын і Лобаў, прадстаўнікі ўлады. Нездаволенасць была вельмі моцная. Яе імкнуліся схаваць. Аб «Волзе», з якой сутыкнуліся, трагічных паведамленняў чамусьці не чуваць.

Усю дарогу да Маздока зноў — размовы, размовы... Руская жанчына расказвае пра Церскі перавал з любоўю карэннай жыхаркі. Вакол бялеюць горы, усё заліта шчодрым сонечным святлом. Праблем на шляху няма. Падобна на тое, што ўсе блокпасты замерзлі на 15-градусным марозе, які схапіў зямлю зранку. Дзядзька нашай субяседніцы Марыны Віктараўны, стары настаўнік з Грознага, год таму, падчас баёў, напісаў паэму пра гора і няскоранасць роднага горада... Дзіўная рэч, але «з усіх бакоў» гэтай вайны пішуцца вершы, песні...

А ў Мінводах — зноў сумна. У зале чакання сабачы холад. Бамжы ля трубы цэнтральнага ацяплення часам саступаюць месца пагрэцца ўсім жадаючым. Усе збіліся ў адну залу. Руская бабуля не дае хлеба нейкай жанчыне: «У нас вайна ідзе, а гэтага вось (папрашайніцтва) няма!» Расказвае мне, як разбіла камеру замежнай журналісткі: «Яны здымаюць, а я толькі што маці вынесла!» Маці яе забіла падчас расійскай бамбёжкі, проста ў доме за сталом. Зараз жанчына едзе дадому з пахавання цёткі. Вочы яе блішчаць сухім бляскам болю і гневу: «Нікуды адсюль не з'еду!.. Лепш за нашых чачэнцаў — нікога няма!»

Дзве сястры едуць у Кіеў, у госці да старэйшай. «Кажуць, нешта будзе цяпер у нас у Науры, — ківае галавою малодшая, Люба. — Быў самы ціхі раён. — І да мяне: — Што ў нас будзе, як вы думаеце?» — «Я баюся, што ў бліжэйшы час...» — «Ой, не трэба! Я ж там пакінула сям'ю!»

Жанчына ў чорным з трывогай распытвае ўсіх пра Гудэрмес. Гул у небе — гэта самалёты ў яго накірунку. «Ехалі на пахаванне, дачка не ўлезла ў машыну...» 21-гадовая дачка аказалася цяпер у самым пекле. «Як туды дабрацца?» Тут большая частка людзей не ведае, як Прыватнікаў не бачна, а электрычка пойдзе гадзін праз дзевяць, і то толькі Чарвлёнай, дзе нехта перастрэліў электраправады. Частка прасёлкаў перакапана. Сядзі, чакай, грэйся ля батарэі пад вокнамі з перакошанымі пыльнымі рамамі. Гэты крыж усе прымаюць спакойна. Прывыклі і не да такога...

За гэтыя дні нам надавалі адрасоў з наказамі: «Будзеце тут — заходзьце!» Грозны, Новыя Олды, Ярмолаўка, Наур... Хаця на абмен адрасамі часу асабліва не было, ды і рукі вечна дзеравянелі ад холаду, калі трэба было пісаць... Проста ўсе казалі: «Напэўна, мы калі-небудзь сустрэнемся!»

Напэўна!

Затое хутка мы сапраўды трапляем у рай. Гэта вагон цягніка. На фіранках напісана назва «Звязда». Усе падобныя на ледзяшоў, што зараз пачнуць таяць у цёплым вагоне. Міліцыянеры свецяць ліхтарыкамі і загадваюць усім схаваць бутэлькі са сталоў. Што і адбываецца. Але так жыць немагчыма, бо ніхто не хоча заўтра прачнуцца з тэмпературай, блізкай да лічбы на этыкетцы.

Заснуць цяжка, нягледзячы на стомленасць. У Грозным чамусьці прыснілася лета, зялёны, яркі сад на радзіме. Побач — шмат нябачных сяброў, а на абрусе — духмяны хлеб. «Кіньце вы дурное, — кажа нехта ў сне маім голасам, — зараз я вас пачастую, сама пякла ў печы...» Мая рука тонка-тонка рэжа хлеб.

А тут не спіцца. Перад вачыма — абрывак белага і чырвонага з воклічам» «...живой!!!», цёмная сцяна ў шрамах, асвечаная сонцам...

Нешта цёплае павольна бяжыць па твары, як гэта ледзь не здарылася пры ад'ездзе з Грознага. Як заўжды: здраднікі яны, гэтыя слёзы!

**Таццяна СНІТКО.**

# ЦІ БЫЎ «КАЦЁЛ» ПАД НАВАГРУДКАМ?

**Евангеліст Марк мудра вучыў: «Няма нічога тайнага, што не стане яўным; і нічога не бывае патаемнага, што б не выйшла звонку». Але ёсць таямніцы, якія вельмі неахвотна адкрываюцца людзям. Да такіх таямніц належыць і гісторыя «катла» пад Навагрудкам.**

У далёкія 60-я гады, калі адзін з аўтараў гэтых радкоў вучыўся ў ваеннай установе былога СССР, нейк наш выкладчык «адкрыўся» і заявіў, што першым у гады вайны быў не Сталінградскі, гісторыю якога мы тады «зубрылі», а Навагрудскі «кацёл». Затым дадаў: «Ёсць такі богам і людзьмі забыты гарадок Беларусі, а калісьці яго ведала Еўропа і ўвесь свет, бо быў ён першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага». Выкладчык расказаў нам, маладым курсантам, аб новай, небачнай раней нямецкай тактыцы глыбокіх танкавых абхватаў. Гітлеру настолькі спадабалася новая тактыка, што паклаў яе ў аснову сваёй знакамітай дырэктывы, вядомай пад назвай «Плана Барбароса». Адным з самых каласальных поспехаў гэтай тактыкі менавіта і быў таямнічы Навагрудскі «кацёл».

З першых гадзін вайны немцы дзвюма магутнымі танкавымі групоўкамі, з поўначы і поўдня, імкліва рванулiся ў глыбіню беларускай тэрыторыі. Наступленне нямецкіх танкавых клінốў было вельмі паспяховым, калі не сказаць большага. Прычыны ашаламляльнага поспеху былі розныя і заключаліся яны не толькі ў асэнсаванні немцамі новых магчымасцей масіраванага прымянення танкаў. Былі прычыны, якія «падыгралі» немцам. Адна з іх даволі вядомая — Сталін так і не дазволіў прывесці войскі Заходняй асобай ваеннай акругі ў належны стан баявой гатоўнасці.

Спрыялі немцам і «мясцовыя» прычыны, якія менш знаёмы сучаснаму чытачу. Укажам на дзве з іх, якія найбольш адмоўна адбіліся на справах Заходняга фронту. Перад вайной стала правілам вучыць войскі асобна па радах: артылерысты вучыліся ў сваіх спецыялізаваных лагерах, танкісты — у сваіх, нават кулямётчыкі мелі свае асобныя лагеры навучання. З чыста вучэбных мэтаў такая сістэма была апраўданай, бо давала нядрэнныя вынікі. А вось з боку кіравання войскамі, калі часці дывізій і карпусоў «расцягваліся» па спецыялізаваных лагерах на 50—100 і больш кіламетраў ад сваіх штабоў, да яшчэ ва ўмовах перадваеннай абстаноўкі, такая сістэма была шкоднай і недапушчальнай. На Заходнім фронце «прайшоў» яе самы цяжкі варыянт: немцы перайшлі дзяржаўную граніцу, а часці дывізій і карпусоў былі раскіданы па спецыялізаваных лагерах. Танкісты, артылерысты — галоўная ўдарная сіла знаходзілася ад сваіх штабоў на дзесяткі, а то і сотні кіламетраў. Супраць нямецкіх танкавых армадаў, фактычна сам-насам, засталіся адны стралкі. У сваю чаргу артылерыстам і танкістам складана было прабіцца праз масы наступаючых нямецкіх войскаў да сваіх штабоў.

Карацей: дывізіі і карпусы Заходняга фронту ўдарылі па немцах не «кулаком», а «пяцярнёй», таму і ўдару не атрымалася. Камандуючы войскамі акругі не аддаў загадзя загадзя вярнуць з летніх лагераў часці дывізій і карпусоў, таму атрымалася тое, чаго нельга допускаць было нельга: стралкі, танкісты, артылерысты паасобку, нярэдка на маршы ці ў вучэбных лагерах, сустрэлі перадавыя часці праціўніка. Вынікі такога «кіраўніцтва» няцяжка прадбачыць — поўны разгром савецкіх часцей, непамерна вялікія страты ў баявой тэхніцы і людзях.

У канцы першага дня вайны камандуючы Заходнім фронтам зрабіў другую, не менш буйную памылку. Аналізуючы пачатак баявых дзеянняў, Паўлаў прыйшоў да высновы, што галоўныя падзеі разгорнуцца ў раёне Ліды. Сюды спешна пачалі сцягвацца буйныя франтавыя рэзервы, агаляючы мінскі напрамак, аб чым немцы маглі толькі марыць. Так, супраць сваёй волі і жадання, генерал Паўлаў стаў фактычна «падыгрываць» немцам. Гэта пазней заўважыў і маршал Г. Жукаў, які пісаў у сваіх мемуарах, што камандуючы Заходнім фронтам Паўлаў прымаў рашэнні, якія «не адпавядалі абстаноўцы».

На слаба прыкрыты Мінск, з поўначы і поўдня рванулiся танкавыя групы нямецкіх генералаў Гота і Гудэрыяна. 27 чэрвеня, на шосты дзень вайны, нямецкія танкі выйшлі на подступы да Мінска, тым самым стальнымі абцугамі замкнулі абхват войскаў Заходняга фронту. Генерал Паўлаў сваімі памылковымі рашэннямі фактычна «ўцягнуў» у акружэнне, на самае дно «катла», не толькі войскі першага эшалона, але і свае франтавыя рэзервы. Немцы ўслед танкавым групоўкам Гота і Гудэрыяна падцягнулі свае палявыя арміі і ў канцы чэрвеня 1941 года наглуха зачынілі «кацёл». У Налібоцкай пушчы, у вялізным лясным масіве ад Стоўбцаў да Навагрудка, аказаліся ў поўным акружэнні, без сувязі са штабам фронту, часці і падраздзяленні 11 дывізій. Акружаныя войскі «варыліся ў катле» пад няспынным ўдарамі нямецкай авіяцыі, якая літаральна вісела над галовамі акружэнцаў, пад танкавымі і артылерыйскімі абстрэламі. Важнейшыя дарогі, масты, пераправы загадзя блакіраваліся нямецкімі дэсантамі. Не ведаючы дакладнага становішча войскаў праціўніка, сваіх суседзяў, не маючы сувязі, не знаючы намераў вышэйстаячага камандавання, без папаўнення боепрыпасамі, гаручым, становішча акружаных войскаў было катастрафічным. Камандзір знакамітай 24-й стралковай дывізіі генерал Галіцкі ў сваіх мемуарах адзначыў, што першую інфармацыю аб тым, што яго злучэнне трапіла ў «кацёл», ён атрымаў ад ...немцаў, якія з самалётаў раскідвалі лістоўкі, на адным баку якіх была схема акружаных пад Навагрудкам войскаў, а на другім заклік: «Вы акружаны — здавайцеся!»

Блакіроўка ў Налібоцкай пушчы савецкіх войскаў запатрабавала ад немцаў значных сіл — каля 25 дывізій, амаль палову групы армій «Цэнтр», якія «завязлі» ў зацяжных баях і не маглі наступаць. «План Барбароса» ўладарна патрабаваў рашучага наступлення, каб да зімовых халадоў заняць Маскву, бо немцы выбралі стратэгію «маланкавай» вайны і не назапасілі для сваёй шматмільённай арміі цёплай амуніцыі.

Але як жа быць з акружанымі 11 дывізіямі? Няхай яны былі і абяскроўленымі, і без агульнага камандавання, і без гаручага і боепрыпасаў, але які военачальнік пагодзіцца пакінуць у сваім тыле такую колькасць войскаў непрыяцеля? Навагрудскі «кацёл» з тактычна-аператыўнай перарастаў у задачу аператыўна-стратэгічную. Задачы такога маштабу ў тагачаснай Германіі вырашаць мог толькі адзін чалавек — Адольф Гітлер. У «Ваенным дзённіку» начальніка генеральнага штаба сухапутных войскаў Германіі генерала Гальдэра мы знаходзім даволі падрабязнае апісанне, як справа Навагрудскага «катла» вырашалася Гітлерам. Былі задзейнічаны не толькі дывізіі групы армій «Цэнтр», але на Беларусь тэрмінова былі перакінуты падмацаванні з Прыбалтыкі.

Акружаным войскам чакаць дапамогі не было ад каго; Стаўка са стратэгічных рэзерваў імкліва разгортала каля Дняпра новы фронт, хаця і са старой назвай — «Заходні». І адбылося тое, што адбылося: першы састаў Заходняга фронту вышэйшым камандаваннем быў кінуты на волю лёсу. Яго войскі часткова загінулі, часткова трапілі ў нямецкі палон ці перайшлі ў партызаны. Толькі невялікім атрадам акружэнцаў без баявой тэхнікі, з лёгкім стралковым узбраеннем удалося з невераготна цяжкімі стратамі «прасачыцца» з Навагрудскага «катла» і далучыцца да сваіх войскаў.

8 ліпеня 1941 года «кацёл» пад Навагрудкам быў ліквідаваны, хаця асобныя атрады акружэнцаў вялі бai ў Налібоцкай пушчы яшчэ больш месяца.

І ўсё ж, быў ці не летам 1941 года «кацёл» пад Навагрудкам? Калі звярнуцца да адпаведных энцыклапедычных даведнікаў аб вайне, то мы і сёння не знойдзем там нават самога тэрміна «кацёл» пад Навагрудкам. Каб адшукаць ісціну, Савет ветэранаў Навагрудка звярнуўся ў Генеральны штаб Узброеных Сіл Расіі, спадкаемцу Генеральнага штаба былога СССР. Расійскі Генштаб добразычліва адгукнуўся на запыт і даслаў афіцыйную даведку — так, быў і «кацёл», быў і поўны, за першыя два тыдні вайны, разгром немцамі першага саставу Заходняга фронту. З 44 дывізій Заходняга фронту 24 дывізіі немцамі былі разбіты поўнасцю, астатнія 20 дывізій страцілі ўсё цяжкае ўзбраенне і больш за палову асабовага саставу. Значная частка акружэнцаў трапіла ў нямецкі палон, толькі невялікія атрады дашчэнту змучаных байцоў змаглі вырвацца з «катла» і дайсці да сваіх войскаў.

Здавалася, ісціна знойдзена і даведкай Генштаба пацверджана дакументальна. А тут і часы спрыяльныя: 50-годдзе вызвалення Беларусі, 50-годдзе Перамогі, усё складвалася як найлепш, каб дастойна ўшанаваць светлую памяць цалкам загінуўшага Заходняга фронту першага саставу. Ветэраны Навагрудка разам з выканкомам Савета дэпутатаў вырашылі: з самага высокага дрэва Налібоцкай пушчы, дзе палеглі нашы салдаты, паставіць у ваколіцах Навагрудка вялізны драўляны крыж, як напамін жывым аб трагедыі пачатку вайны, якая тут адбылася. Адзін з аўтараў гэтага артыкула напрасіўся, без усякай аплаты, у знак павагі да загінуўшых салдат, напісаць кнігу аб Навагрудскім «катле». Прайшоў час — кніга аб «катле» напісана. Кнігу ўважліва прачыталі гісторыкі, военачальнікі, ветэраны. Напісаны рэцэнзіі — кніга патрэбная, утрымлівае ўзважаныя ацэнкі, фактычна адкрывае невядомую старонку вайны. Быццам усё пайшло як трэба, як у цывілізаваных людзей.

Але... Вось гэтае знакамітае нашае «але»... Беларусь урачыста адсвяткавала 50-годдзе свайго вызвалення, непрыметна праляцеў 1995 год — год 50-годдзя Перамогі. Самае высокае дрэва так і засталося стаяць у Налібоцкай пушчы і чакаць, калі выпадзе яму лёс стаць крыжам, каб сведчыць людзям аб трагедыі першых дзён вайны.

Ляжыць мёртвым грузам у Савеце ветэранаў і кніга аб «катле» — няма сродкаў, каб яе выдаць. Праўда, спярша грошы былі знойдзены, і немалыя — 25 мільёнаў, якія «з гакам» у тыя часы хапіла б на кнігу. Дарэчы, аб гэтых мільёнах прыхільна пісала і «Звязда». Але прайшоў час, шуміха вакол «катла» ўляглася, а грошы так і не дайшлі з Мінска да Навагрудка: адна арганізацыя пералічыла тыя мільёны другой, не менш паважанай арганізацыі, другая — трэцяй, а тут канец года і... плакалі ветэранскія мільёнчыкі: ні грошай, ні вінаватых.

У ЗША, людскія страты якой за ўсю другую сусветную вайну параўнальныя са стратамі аднаго Заходняга фронту за першыя два тыдні, выдадзена фундаментальная 85-томная «Армія ЗША ў другой сусветнай вайне», у якой падрабязна апісаны баявыя дзеянні да батальёна. У Японіі, якая, як вядома, не была пераможцай, выйшла 96-томная гісторыя вайны. Цывілізаваныя краіны шануюць сваю гістарычную памяць, бо ведаюць: без памяці не можа быць дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, дабрабыту кожнага грамадзяніна. У нас драматычна загінуў цэлы фронт, які налічваў каля 670 тысяч салдат і афіцэраў, і гэтым пакутнікам нават не пастаўлены драўляны крыж, аб іх барацьбе не выдадзена і тانюсенькая брашурка. Праўда, свет не без добрых і спагадлівых людзей. Вядомы грамадскі дзеяч, дэпутат Вярхоўнага Савета ад Навагрудчыны С. Шарэцкі, прачытаўшы рукапіс кнігі аб «катле», узяў на сябе клопаты аб яе выданні. Як кажуць, дай жа Божа, будзем жыць надзеяй, што кніжка ўсё ж убачыць свет.

А пакуль так і жывём, пераліваем з пустога ў парожняе: быў «кацёл» — не было «катла». Не паважаем сваю гісторыю, жывую справу падмяняем бясконцымі рашэннямі і абяцанкамі.

**Мікалай СІЛЬЧАНКА,**
**прафесар.**
**Іван БАСЮК,**
**дацэнт.**

*г. Гродна.*

# ДЛЯ ГІСТОРЫІ, ДЛЯ ВЕЧНАСЦІ

Сённяшні час спрыяльным для культуры не назавеш, таму з'яўленне новага тэатра альбо адкрыццё новага музея адразу набывае статус надзвычайнай падзеі. Такой падзеяй стала адкрыццё музея сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля ў доме, дзе майстар жыў і працаваў апошнія гады. Гэты двухпавярховы будынак па вуліцы Я. Коласа, 29 а добра ведаюць калегі і вучні Андрэя Ануфрыевіча. Фактычна музеем ён стаў яшчэ пры жыцці нашага вядомага майстра, а цяпер гэты статус зацверджаны за ім афіцыйна.

У адным з пакояў размешчана мемарыяльная экспазіцыя, а непасрэдна ў майстэрні — зала для выставак. Мяркуецца, што ў бліжэйшы час тут адкрыецца выстаўка з фондаў кафедры скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў, якой прафесар Бембель прысвяціў не адзін год.

Адкрыццё музея супала са святкаваннем пяцідзесяцігоддзя акадэміі. Такім чынам, госці свята, аматары мастацтва мелі магчымасць азнаёміцца і з творчасцю аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай скульптуры і пабачыць плён ягонай (і не толькі ягонай) педагагічнай дзейнасці ў творах выхаванцаў акадэміі на выстаўцы ў Палацы мастацтваў.

Як прынята, на вечарыне памяці выступалі тыя, хто асабіста ведаў майстра, — ягоныя калегі і вучні. Праз іх успаміны паўставаў вобраз неардынарнай асобы на фоне супярэчлівага часу. Трэба адзначыць, што хоць Андрэй Бембель класікам лічыўся ўжо пры жыцці і ўся ягоная творчасць укладалася ў каноны «сацыялістычнага рэалізму», але і ён меў праблемы ў стасунках з дзяржаваю.

Так, напрыклад, яму рабілі перашкоды ў арганізацыі выстаўкі ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, увогуле ставілі пад сумненне ягонае права на персанальную выстаўку, бо сын Андрэя Ануфрыевіча Алег, супрацоўнік Акадэміі навук Беларусі, распачаў несанкцыянаваныя доследы рэальнага стану беларускай мовы ў Беларускай ССР. А высновы гэтай навуковай працы сведчылі, што ў Беларусі ідзе русіфікацыя.

Станаўленне прафесіянальнай скульптуры ў Савецкай Беларусі звязваюць з імёнамі чатырох майстроў — Бембеля, Глебава, Азгура, Селіханава. За межамі Беларусі найбольш вядомы з іх Андрэй Бембель. Найперш праз яго самы славуты твор «Мікалай Гастэла».

Гэта бадай адзіная беларуская скульптура, якую крытыкі без ваганняў, без агаворак адносілі да ўсесаюзнай, агульнасавецкай класікі. Мабыць, у больш спрыяльных умовах, па-за межамі «сацыялістычнага рэалізму» мастак здолеў бы зрабіць болей. Не трэба забываць і пра тое, што стасункі Масквы і Беларусі былі стасункамі метраполіі і калоніі, альбо, калі выказаць больш далікатна, — цэнтра і правінцыі. Так было ў эканоміцы, палітыцы, у галіне культуры — таксама. Таму ў Беларусі пры наяўнасці вялікай колькасці ўласных скульптараў і архітэктараў стварэнне «прэстыжных» манументальных аб'ектаў часта аддавалася «ў канцэсію» масквічам.

Аўтарскі калектыў мемарыялу «Брэсцкая крэпасць-герой» узначальваў А. Кібальнікаў, комплекс музея савецка-польскай баявой садружнасці рабіўся па праекту Я. Белапольскага і У. Цыгаля, па маскоўскаму праекту будаваўся і маскоўскімі мастакамі аздабляўся новы тэатр у Гродне.

Мяркуецца, што музей сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля стане навукова-даследчым цэнтрам, дзе будуць сабраны ўсе магчымыя матэрыялы аб нашых дасягненнях і стратах. Час, які народ скарыстаў не лепшым чынам — страта. Калі нашым героям ставіцца помнікі ў Жамойці і Польшчы, нібыта яны жамойты і палякі,— таксама страта.

Андрэй Бембель быў шчырым чалавекам і выдатным мастаком. Дый не ўсё ў ягонай творчасці раўнаznачна. Штосьці — для нацыянальнага музея, штосьці прасіцца ў «музей афіцыёзу». Але для гісторыі мастак застаецца ў творах, у якіх ён паўстаў над часам і дакрануўся да вечнасці. Такія творы ў Андрэя Бембеля ёсць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
**эксперт газеты «Звязда» па пытаннях культуры.**

***P. S. У музеі ўжо адкрылася першая выстава, дзе прадстаўлены творы вучняў А. Бембеля.***

*СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»*

**Віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта рэспублікі, шэф місіі «Беларусь у Атланце» Віктар ПУЦЬКОЎ:**

# «АЛІМПІЙЦАМ ЁСЦЬ НА КАГО РАЎНЯЦЦА...»

**Надышоўшы 1996 год будзе азнаменаваны дзвюма вялікімі падзеямі ў міжнародным спартыўным руху: стогадовым юбілеем сучаснага алімпізму і чарговымі, XXVI Алімпійскімі гульнямі. У далёкай Атланце (ЗША) спрэчку за самыя каштоўныя спартыўныя ўзнагароды павядуць лепшыя з лепшых атлетаў усіх кантынентаў. Упершыню ў гісторыі Алімпіяд самастойнай камандай на летніх Гульнях выступіць зборная Рэспублікі Беларусь.**

**З якімі набыткамі ў вялікім спорце ўступае ў алімпійскі год наша дзяржава? Ці гатова цяперашняе пакаленне беларускіх алімпійцаў падтрымаць на Алімпіядзе-96 высокі і годны прэстыж сваіх папярэднікаў? Адказаць на гэтыя і іншыя пытанні мы папрасілі віцэ-прэзідэнта НАК Рэспублікі Беларусь, шэфа місіі «Беларусь у Атланце» Віктара Пуцькова.**

— Калі зазірнуць у гісторыю, — сказаў Віктар Піліпавіч, — цяперашнім алімпійцам ёсць на каго раўняцца, з каго браць прыклад. Дэбютаваўшы ў 1952 годзе на Алімпіядзе ў Хельсінкі, савецкія спартсмены пастаянна займалі месцы сярод вядучых спартыўных дзяржаў свету. І немалы ўклад у гэта ўсеагульнае прызнанне ўносілі пасланцы беларускай фізкультурна-спартыўнай арганізацыі. Нагадаю: алімпійскі летапіс беларусы пачалі тады, у 1952-м, з ганаровага чацвёртага месца, занятага Анатолем Юліным у бегу на 400 метраў з бар'ерамі. А потым былі: сярэбраны медаль кідальніка молата Міхаіла Крываносава (XVI Алімпіяда ў Мельбурне, 1956 год), залатыя ўзнагароды весляроў-канаістаў Леаніда Гейштара і Сяргея Макаранкі, фехтавальшчыцы Таццяны Самусенка, барца класічнага стылю Алега Караваева (XVII Гульні ў Рыме, 1960 год)... Гэта яны праклалі першую сцяжынку да сусветнай славы сваім пераемнікам, такім, як шасціразовы алімпійскі чэмпіён гімнаст Віталь Шчэрба, уладальнікі чатырох залатых медалёў фехтавальшчыца Алена Бялова і гімнастка Вольга Корбут, трохразовыя пераможцы Гульняў барэц вольнага стылю Аляксандр Мядзведзь, фехтавальшчык Віктар Сідзяк, тая ж Таццяна Самусенка, вясляр-байдарачнік Уладзімір Парфяновіч...

А вазьміце больш блізкі час — апошнюю летнюю Алімпіяду 1992 года ў Барселоне. У саставе аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў выступалі 56 прадстаўнікоў Беларусі. Яны заваявалі 27 медалёў, з іх 17 — залатых. Па колькасці алімпійскіх чэмпіёнаў мы апярэдзілі такія вядомыя ў спартыўным свеце краіны, як Вялікабрытанія, Італія, Японія, Канада.

Нас шчыра радуе і задавальняе той факт, што спартсмены 90-х гадоў шануюць традыцыі, усяляк імкнуцца прымножыць набыткі сваіх папярэднікаў. У 1995 годзе на чэмпіянатах свету і Еўропы, буйных міжнародных спаборніцтвах прадстаўнікі Беларусі амаль 50 разоў узнімаліся на вышэйшыя ступенькі п'едэсталаў гонару. Чэмпіёнамі свету па лёгкай атлетыцы сталі Наталля Шыколенка і Эліна Зверава, сярэбранымі прызёрамі — Ігар Астапковіч і Эдуард Хямяляйнен, пацвердзілі свой высокі клас Віталь Шчэрба, Алена Піскун, Ларыса Лук'яненка, Ігар Басінскі, Наталля Зверава, Алег Чырыца, прадстаўнікі іншых відаў спорту. Гатовы павесці барацьбу за ўзнагароды Гульняў-96 алімпійскія чэмпіёны 1988 і 1992 гадоў Аляксандр Курловіч, Таццяна Ледаўская, Ірына Шылава, Канстанцін Лукашык, Аляксандр Масейкаў, Уладзімір Даўгалёнак. Нават герой Алімпіяды 1980 года Леанід Тараненка.

**— Такім чынам, касцяк зборнай на Гульні ў Атланце ёсць?..**

— Безумоўна ёсць. Ды інакш, уласна кажучы, і быць не магло. І вось чаму.

Адразу пасля заканчэння Алімпіяды 1992 года мы вельмі ўважліва прааналізавалі вынікі выступленняў нашых атлетаў, разгледзелі стан спраў у алімпійскіх відах спорту. Падрыхтоўка да Гульняў-96 была спланавана па гадавых цыклах з улікам назапашанага вопыту ў дасягненні вышэйшых вынікаў, сучасных тэндэнцый развіцця сусветнага спорту. Тады і прыйшлі да высновы, што ў рэспубліцы ёсць па сутнасці ўсё неабходнае для таго, каб і на наступным алімпійскім форуме не ўдарыць тварам у гразь.

**— Згодзен, сістэма падрыхтоўкі спартсменаў высокага класа ў нас адпрацавана даволі дасканала...**

— Зноў жа без лічбаў тут не абысціся. Сёння ў Беларусі працуюць 478 дзіцяча-юнацкіх школ, 8 вучылішчаў алімпійскага рэзерву, 11 школ вышэйшага спартыўнага майстэрства, у якіх праходзяць падрыхтоўку звыш 200 тысяч чалавек. З імі працуюць каля 6 тысяч 850 трэнераў і спецыялістаў, з якіх 382 — заслужаныя трэнеры Беларусі і СССР. Ланцужок «юнакі — юніёры — дарослая зборная», як і раней, дзейнічае ў нас пакуль што вельмі паспяхова.

**— Віктар Піліпавіч! На 1 снежня 1995 года рэспубліка мела 146 алімпійскіх ліцэнзій па 15 відах спорту на права ўдзелу ў Гульнях у Атланце. Давайце пералічым іх па відах з тым, каб аматары спорту, як кажуць, маглі ўжо спакваля настройвацца на алімпійскую хвалю Атланты...**

— Калі ласка. Ліцэнзіі размяркоўваюцца наступным чынам: лёгкая атлетыка— 53, спартыўная гімнастыка, плаванне, веславанне акадэмічнае — па 14 у кожным відзе, кулявая стральба — 12; цяжкая атлетыка — 10; мастацкая гімнастыка — 8; велашаша — 6; скачкі ў ваду — 4; дзюдо — 3; ветразевы спорт — 3, стральба з лука — 2, настольны тэніс, конны спорт, вялікі тэніс — па адной ліцэнзіі.

**— Але ж алімпійскіх дысцыплін намнога больш!..**

— Так, больш. Нашы спартсмены працягваюць яшчэ барацьбу за алімпійскія ліцэнзіі і ў такіх відах спорту, як бокс, фехтаванне, вольная і грэка-рымская барацьба, веславанне на байдарках і каноэ, сучаснае пяцібор'е, веласпорт (трэкавыя гонкі), бадмінтон, воднае пола, хакей на траве. Безумоўна, прэтэндэнтаў на паездку ў Атланту будзе больш, чым зараз.

**— Мяркуючы па ўсім, Беларусь атрымае права выставіць на Алімпіядзе ў Злучаных Штатах вельмі вялікую і прадстаўнічую каманду. Але ж ці мэтазгодна гэта, Віктар Піліпавіч? Ці апраўданым будзе ўдзел у такім высокім спартыўным форуме атлета, якому, скажам так, па сутнасці нічога не будзе свяціць? Ці не раскоша гэта?**

— Пытанне і тонкае, і неадназначнае. З аднаго боку — спартсмен даб'ецца пастаўленай перад ім мэты: выканае алімпійскі нарматыў, дакажа, што трэніраваўся, ахвяраваў усім на працягу чатырох гадоў не дарэмна... А з другога, як вы кажаце, відавочнасць таго, што сапернікі (і іх нямала!) — мацнейшыя, больш падрыхтаваныя... Сітуацыя сапраўды няпростая.

Мы маем намер накіраваць у Атланту 120 атлетаў. Гэта будуць тыя спартсмены, якія на заключнай стадыі падрыхтоўкі да Алімпіяды пакажуць свае лепшыя вынікі, пераканаюць усіх нас у тым, што пік іхняй формы на падыходзе і яны здольны весці барацьбу за самыя высокія месцы. Калі падыходзіць рэальна, гэта будуць прадстаўнікі 18—20 відаў спорту. Дарэчы, прадстаўнікам Беларусі па сілах заваяваць за акіянам 19—20 узнагарод.

**— Апошнім часам, нягледзячы на складанасць эканамічнай і сацыяльнай абстаноўкі ў рэспубліцы, фізічнай культуры і спорту ўдзяляецца пэўная, па меры магчымасці, увага. У першую чаргу я маю на ўвазе тое, што створана Міністэрства спорту і турызму, а ход падрыхтоўкі алімпійцаў да стартаў у Атланце знаходзіцца на кантролі ў Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі...**

— Вы маеце рацыю. Сёння цяжка ўсім, а сацыяльна-культурнаму комплексу — асабліва. І тым не менш, кіраўніцтва рэспублікі разумее, як важна падтрымаць, а калі ёсць магчымасць — дык і павялічыць на міжнароднай арэне прэстыж беларускага спорту. Не зраблю вялікага адкрыцця, калі скажу: імя такой «зоркі» спорту, як Віталь Шчэрба, «працуе» на нашу маладую суверэнную дзяржаву ніколькі не менш, чым, прабачце, іншая дыпламатычная акцыя... І каб такіх «зорак» было ў нас больш, нам ідуць насустрач, дапамагаюць, падтрымліваюць. Толькі апошнім часам у Беларусі адкрыты рэспубліканскія цэнтры па тэнісу і коннаму спорту, пабудаваны залы мастацкай гімнастыкі і цяжкай атлетыкі, праблемная лабараторыя пераўтворана ў галіновы навукова-даследчы інстытут фізкультуры і спорту, як асобная дысцыпліна з'явілася спартыўная медыцына.

**— Віктар Піліпавіч! Нядаўна ў друку было паведамленне аб тым, што Вольга Корбут атрымала афіцыйны статус алімпійскага аташэ на XXVI летніх Гульнях у Атланце ад Рэспублікі Беларусь. Што б гэта значыла?**

— Са згоды нашай славутай гімнасткі гэту пасаду ёй прапанаваў выканком Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі. Як вядома, цяпер Корбут жыве са сваёй сям'ёй у Атланце і яе галоўная задача на новай пасадзе — спрыянне падрыхтоўцы і выступленню нашых атлетаў на чарговай Алімпіядзе. Дарэчы, цяпер вырашаецца пытанне аб уключэнні ў штатны расклад Пасольства Беларусі ў Злучаных Штатах пасады саветніка па спорту, на якога таксама будуць ускладзены гэтыя абавязкі.

Патрэба ў гэтым ёсць вялікая. Вы разумееце, як няпроста будзе праходзіць акліматызацыя спартсменаў з іншых кантынентаў да ўмоў выступлення ў ЗША. У Атланту выязджалі ўжо нашы скакуны ў ваду, барцы вольнага стылю, лёгкаатлеты і яны пацвярджаюць: прыстасавацца да тамтэйшага клімату і іншых асаблівасцей надзвычай складана. А гэта вельмі важны фактар.

**— Фінансавыя пытанні апошнім часам у вас вырашаюцца больш-менш паспяхова. Дапамагае дзяржава, ды і 26 афіцыйных спонсараў, якія далі згоду на супрацоўніцтва з НАКам рэспублікі, — падмога значная...**

— Дзякуй Богу, выжываем, фінансавыя праблемы зрэдку ўзнікаюць, але, думаю, яны будуць вырашацца. Нас зразумеюць.

**— Віктар Піліпавіч, у свой час быў надзвычай папулярны дэвіз: «Алімпійскі год — не толькі для алімпійцаў!» Час, магчыма, і вымушае перагледзець яго, але ж 1996-ы — год стагоддзя алімпійскага руху?**

— 6 сакавіка 1996 года сусветная супольнасць будзе шырока адзначаць юбілей алімпійскага руху. У сувязі з ім Нацыянальны алімпійскі камітэт Беларусі распрацаваў і зацвердзіў спецыяльную праграму. Пад эгідай святкавання пройдуць Спартакіяда рэспублікі, Алімпійскі дзень, урачыстыя провады алімпійскай зборнай у Атланту, баль алімпійцаў пасля яе вяртання з-за акіяна. Будзе выпушчана самая розная рэкламная атрыбутыка, сувеніры, парасоны, гадзіннікі і г. д. Так што алімпійскі год будзе святам для ўсіх і кожнага, хто пажадае далучыцца да здаровага ладу жыцця.

**— Ну, а складанасці, праблемы ёсць?**

— А як жа без іх! Па-ранейшаму адчуваем мы недахват экіпіроўкі, абсталявання, навукова-медыцынскае абсталяванне таксама яшчэ не на належным узроўні. У шэрагу відаў спорту востры дэфіцыт на спецыялістаў, якія здольны вывесці спартсменаў на высокі сусветны ўзровень. Зусім мала і сучаснай спартыўнай базы. Так што працаваць ёсць над чым.

**Гутарыў Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## КАМУ ТАЙСАН АДДАСЦЬ ПЕРАВАГУ

За 2 мільёны долараў Майк Тайсан набыў новую рэзідэнцыю непадалёку ад Вашынгтона. Пакуль невядома, хто менавіта паселіцца з Тайсанам у новым доме. Больш за ўсё шанцаў у Монікі Тэрнер, якая па-ранейшаму спадзяецца стаць яго жонкай. Хоць спіс прэтэндэнтак, відавочна, значна больш шырокі, Майк ужо быў заўважаны з іншымі, не менш чароўнымі дамамі.

## КРЫЎДА ХАКЕІСТА

Адзін з лепшых хакеістаў свету — Павел Бурэ — абураецца наконт таго, што падаткі «з'ядаюць» 54 працэнты ад зарабляемых ім грошай. Калі сума яго першага заакіянскага кантракта складала 400 тысяч долараў у год, то зараз ён ужо зарабляе штогод да 5 мільёнаў долараў.

## АНГЛІЧАНЕ ПЕРАМАНІЛІ ФРАНЦУЗСКАГА ФУТБАЛІСТА

5,2 мільёна долараў, цудоўны дом з прылеглым паркам у адным з фешэнебельных кварталаў Ньюкасла, а таксама гарантаваны штомесячны аклад у памеры 120 тысяч долараў атрымаў вядомы французскі футбаліст Дэвід Жынала за згоду перайсці з саставу каманды «Пары Сен-Жэрмен» у англійскі футбольны клуб «Юнайтэд Ньюкасл».

## ЗА ЗАДАВАЛЬНЕННЕ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

Пасля дзесяці гадоў сямейнага жыцця Нік Фальдо — адзін з лепшых у свеце ігракоў у гольф — вырашыў пакінуць сваю жонку Джыл. Праўда, адначасова яму прыйдзецца развітацца і з 11,4 мільёна долараў. Гэта сума ўключае кошт пакуль яшчэ агульнага дома, а таксама пенсію, якая па кантракту належыць яго жонцы ў выпадку разводу.

## ЯК АГАСІ Ў КЛІНТАНА ПІЛОТА ПЕРАМАНІЎ

Год назад першая ракетка свету Андрэ Агасі першым з тэнісістаў набыў самалёт, заплаціўшы за яго 8 мільёнаў долараў. Але, купляючы «лятаючую крэпасць», Агасі і яго саветнікі забыліся аб адной «дробязі» — добрым пілоце. І цэлы год тэнісную зорку вазілі выпадковыя людзі, чыя лётная кваліфікацыя выклікала вялікія сумненні. Аднойчы пры прызямленні ў аэрапорце Маямі самалёт з'ехаў з паласы і ледзь не ўрэзаўся ў ангар. Пасля гэтага выпадку Андрэ загадаў свайму брату Філіпу тэрмінова адшукаць класнага пілота, самага лепшага ў ЗША.

Філіп узяўся за справу з уласцівай яму энергіяй і ўжо праз месяц выйшаў на... Сціва Пурвіна — пілота асабістага самалёта прэзідэнта Клінтана. Аднак работа на прэзідэнцкім «Боінгу» задавальняла лётчыка, таму ён адмовіўся ад прапановы перайсці да Агасі.

Вось тады за «апрацоўку» незгаворлівага пілота і ўзяўся сам Андрэ Агасі. Ён прапанаваў асу 300 тысяч долараў (у чатыры разы больш, чым плацілі ў Белым доме), машыну «Паршэ» (з уласнай калекцыі) і дом за паўцаны ў прадмесцях Лас-Вегаса.

Вядома, Пурвін, чыя жонка чакала першынца, не змог адмовіцца ад такіх даброт. З таго часу Сціў і Агасі амаль неразлучныя. Дзякуючы стараням свайго шэфа пілот цяпер навучыўся не толькі разбірацца ў тэнісе, але і гуляць у яго. Адно дрэнна: лятаючы з Агасі па ўсім свеце, Пурвін вельмі мала часу ўдзяляе сваёй сям'і. Дарэчы, за гэта яму і плацяць такія грошы!

**Падрыхтаваў па матэрыялах перыядычнага друку Валерый СЯРОГІН.**

*НЕВЕРАГОДНАЕ, ЗАГАДКАВАЕ...*

# «МЫ БАЧЫЛІ Ў АКНЕ ВОБРАЗ ІСУСА ХРЫСТА...»

**Калядныя цуды працягваюцца. «Звязда» пісала ў нумары за 4 студзеня пра дзіўныя слупы святла над Гомелем. І вось — новы паварот, відаць, гэтай жа тэмы. Слова — нашаму няштатнаму карэспандэнту**

Сапраўды, сенсацыйную навіну давялося мне пачуць — пра тое, што ў хірургічным аддзяленні Смаргонскай райбальніцы ў акне адной з палат з'яўляўся вобраз Ісуса Хрыста. Паколькі пры гэтым у палаце прысутнічалі шэсць хворых, то навіна хутка разляцелася па ўсёй бальніцы. Спачатку заходзілі хворыя, прысутнічаў увесь медперсанал, які дзяжурыў у ноч з 20 на 21 снежня. Прычым цуд паўтарыўся і ў ноч з 24 на 25 снежня. Пра гэтыя здарэнні паведамілі ксёндз у касцёле і айцец Пётр у царкве.

Калі ўспомніць гісторыю, то на тэрыторыі, дзе зараз райбальніца, у XIX ст. былі майстэрні, у якіх выраблялiся скуры. За польскім часам размяшчалася гандлёвая школа, а ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны тэрыторыя была ператворана ў канцлагер. На тым месцы, дзе хірургічнае аддзяленне, былі магілы ваеннапалонных. Хірургічнае аддзяленне пабудавана ў савецкі час.

Я завітала ў тое аддзяленне і ў тую 22-ю палату для цяжкахворых, дзе адбыліся цуды. Пагутарыла з жанчынамі, якія гэтыя цуды бачылі.

***Людміла Міхайлаўна ВАСІЛЕЎСКАЯ:***

— Позна ўвечары, калі мы ўжо клаліся спаць, убачылі на аконнай шыбе незвычайную васьмёрку. Гэтая васьмёрка была тоўста абведзена лёдам. Прычым, шкло ў сярэдзіне васьмёркі было чыстым і празрыстым. Можна параўнаць з экранам тэлевізара. Праз нейкі момант у гэтым «экране» з'явіўся — па пояс — вобраз Ісуса Хрыста. Ён быў павернуты як бы да сцяны. Спачатку рукі ў Ісуса Хрыста былі складзены крыж-накрыж, потым яны разышліся і паказалася кніга. Мы так думаем, што гэта было Евангелле.

***Зінаіда Самсонаўна ВОЙКАВА:***

— Вобраз быў настолькі чыстым, што былі бачны нават кропелькі поту на твары Ісуса Хрыста.

***Вера Захараўна МЫСКАЯ:***

— Калі я ўвайшла, то стала на калені, памалілася, а потым падышла да акна, апырскала свянцонай вадой, перахрысціла кніжачкай з 90-м псалмом вобраз і сказала: «Даруй мне, Госпадзі, але я не адчуваю Тваёй прысутнасці». Недзе праз пяць хвілін збоку з'явіўся вялікі праваслаўны крыж.

Раніцай у чацвер, 21 снежня, многія гараджане, якія спяшаліся на работу, у тым ліку і я, звярнулі ўвагу на вялізныя вогненныя вертыкальныя слупы, якія ахутвалі бальніцу. А хто-ніхто з жыхароў вул. Чырвонаармейскай і прылеглых раёнаў бачылі вясёлку паміж новабудоўляй царквы і касцёлам, якія знаходзяцца амаль побач.

***Зінаіда Самсонаўна ВОЙКАВА:***

— Другая з'ява Ісуса Хрыста, якая адбылася ў ноч з 24 на 25 снежня, была паўтарэннем першай. Толькі ўнізе была ўжо не кніга, а як бы анёлы ці вяночак. Абедзве з'явы працягваліся ўсю ноч і толькі раніцай, калі ўзыходзіла сонца, усё знікала. Толькі доўга-доўга была відаць васьмёрка. Учора да нас заходзіў айцец Пётр і таксама нас распытваў. Казаў, што на гэтым месцы, дзе наша аддзяленне, былі магілы ваеннапалонных і што душы нявінна закатаваных просяць паратунку ў малітве. Абвясціў нам, што сёння вечарам адбудзецца ў палаце паніхіда.

**Жанна РАДЗІШЭЎСКАЯ.**

# ЗДАРОЎЕ



### ПА РЭЦЭПТАХ НАРОДНЫХ ЛЕКАРАЎ

# ЛЕЧЫМ СКЛЕРОЗ

АДНО З САМЫХ цяжкіх захворванняў — склероз сасудаў галаўнога мозгу. Калі хвароба запушчана, нават комплекснае тэрапеўтычнае лячэнне не заўсёды дапамагае. Але калі пачаць барацьбу са склерозам своечасова, ён паддаецца лячэнню і без дарагіх лякарстваў ці складаных медыцынскіх працэдур.

Перш за ўсё пастарайцеся выхаваць у сабе цярпімасць, добразычлівасць, пастарайцеся пабольш адпачываць, часцей бываць на свежым паветры, падтрымлівайце сувязь з прыродай. Вельмі карысныя водныя загартоўваючыя працэдуры: абліванні і абціранні спачатку цёплай, а затым халаднаватай вадой.

Вясной і летам папрацуйце крыху ў садзе, агародзе з касой ці граблямі, але не спяшаючыся, адпачываючы кожныя 5—15 хвілін. У міжсезонне займіцеся рукадзеллем, праводзячы кожныя паўгадзіны комплекс дыхальных практыкаванняў (стоячы: на ўдых узмахніце рукамі, на выдых — павольна іх апусціце — 3-4 хвіліны).

Эластычнасці артэрый, якая зніжаецца пры склерозе, лепш за ўсё садзейнічаюць павольны, расслаблены бег трушком (20 хвілін у дзень), няспешныя рытмічныя практыкаванні, якія можна спалучаць з паветранымі ваннамі.

Неабходна і аўтагенная трэніроўка. Не спяшаючыся, на выдыху гаварыце формулу: «Я спакойны, ніякіх трывог. Сасуды майго мозгу расслабляюцца. Уся галава становіцца лёгкай». Адначасова праводзіце самамасаж, пагладжваючы далонямі лоб ад пераносся да скроняў; твар — ад ілба да падбародка («умыванне»); патыліцу, шыю — да лапатак; надплечча («пагоны») — далонню процілеглай рукі; скроні, плечавыя, прамянёвазапясцевыя, каленныя суставы — паміж далонямі. Кожную формулу аўтагеннай трэніроўкі паўтарыце 8 разоў, а ўвесь коплекс — 5 разоў на дзень.

Цяпер аб дыеце. Соль павінна быць зведзена да мінімуму, а лепш за ўсё замяніць яе марской капустай. Жывёльныя тлушчы таксама па магчымасці трэба выключыць, ужываючы замест іх раслінныя. У ежы павінны пераважаць сырыя агародніна і садавіна, а таксама лекавыя травы: у салатах і квашэннях — лісты трыпутніку, лебяды, сніткі, макрыцы, скрыпеню, а вясной — ліпы, клёну, бярозы.

Лісце дробна нарэжце, разамніце іх у злёгку падсоленай вадзе і заквасьце, дабавіўшы 1 ст. лыжку квашанай капусты ці сыраквашы, кавалачак чорнага хлеба. Квашэнне адбываецца на працягу дзвух дзён. У першыя і другія стравы дабаўляюць карані лопуху і дзьмухаўцу.

Напоі можна прыгатаваць не толькі з гэтага здробленага карэння, але і дадаць да іх цыкорый, карані лакрычніку і корні пырніку паўзучага (у суткі на два прыёмы гатуецца настой з 5 г кожнай расліны і 0,5 л вады).

Вельмі карысны «Істрынскі бальзам», які не ўступае па каштоўных уласцівасцях бальзаму Бітнера. У састаў яго ўваходзяць: гарэлка — 0,5 л, здробленыя кветкі (20 г) ці ягады (50 г) глогу, рабіны чырвонай (30 г), шыпшыны (30 г), кветкі баркуну жоўтага (10 г), сардэчніку (15 г), мяты перцавай ці лімоннай (10 г), мацярдушкі (5 г), гваздзікоў (10 г), карані дзівасілу (15 г), аніс ці кмен (5 г), кветкі рамонку (5 г). Сумесь заліваюць у бутэльку ёмістасцю 0,75 л, шчыльна закаркоўваюць і вытрымліваюць на батарэі ці печы два дні. П'юць па 2 чайныя лыжкі ў дзень.

На гарэлцы ж у прапорцыі 1:10 настойваюць перагародкі грэцкіх арэхаў. Прымаюць па 2 чайныя лыжкі перад ядой два разы на дзень.

З прадуктаў найбольш каштоўная сырая морква — па 150 г у дзень у грэцкія арэхі, расцёртыя па 5 штук з двума яблыкамі. У сокі, кампоты і кісялі дабаўляйце ягады глогу, чарнаплоднай і чырвонай рабіны, курагу. Вясной рэкамендуем пішь адвар шыпшыны і чай з кветкамі глогу.

**В. СЯРГЕЕЎ,**
**прэзідэнт Інстытута натурапатыі «Сельская новь».**

## УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

**З Дэлі перадае карэспандэнт ІТАР-ТАСС Леанід КОТАЎ**

**Казярога** чакае на гэтым тыдні змена работы, страта партнёра па сумеснай дзейнасці і небяспека для непахіснага раней уласнага аўтарытэту. Затое астыць ад службовых непрыемнасцей можна ў сям'і, дзе не ўзнікае асаблівых праблем. На агеньчык зойдуць сваякі, якім забяспечце дастойную сустрэчу.

А ў **Вадалея** справы ў бізнесе складуцца на рэдкасць паспяхова. Астролагі прадказваюць яму фінансавыя дывідэнды і поўнае ўзаемаразуменне з калегамі па напружанай працы. Для сустрэчы з іншагароднімі партнёрамі магчымы паездкі ў іншыя «палесціны». Вадалеям — хатнім гаспадыням прыйдзецца папрасіць у сваіх мужоў грошай на хатнія расходы. Не трэба скупіцца, а зрабіце ім у прыдачу які-небудзь недарагі прэзент.

Народжанаму пад знакам **Рыбы** трэба неадкладна браць быка за рогі і дзейнічаць. Астролагі прадказваюць яму поспех ва ўсіх пачынаннях. Ва ўрачоў і юрыстаў адбудуцца перамены на рабоце, а бізнесменам прыйдзецца пабегаць у пошуках субсідый. Будучы тыдзень абяцае весялосць на розных пікніках, абнаўленне ўласнага гардэроба, што вельмі дарэчы з-за паяўлення на гарызонце нейкай персоны, гатовай адказаць на вашы пачуцці.

**Авена** чакаюць перамены літаральна ва ўсім — у месцы работы, у адносінах з прыяцелямі і любімым чалавекам. Не выключаны і сямейныя сваркі, а таксама рознагалоссі з начальствам. Але не здавайцеся ў палон суму, спадары Авены. Усе праблемы будуць вырашаны да ўзаемнага задавальнення бакоў. А вось моладзі астролагі раяць быць больш мяккімі з бацькамі. Пазбягайце сварак.

**Цялец** творчых прафесій атрымае спрыяльныя водгукі аб сваіх талентах у прэсе і ў крытыкаў. Віншуем! Але і ўсіх іншых, народжаных пад гэтым знакам, чакае нямала прыемнага. Служачых — пашана ў начальства, уладальнікаў уласных прадпрыемстваў — нечаканая банкаўская пазыка. Чысла гэтак 10-га Цялец атрымае важныя звесткі па тэлефоне. Медыкам трэба рыхтавацца да сустрэчы з пацыентамі, дапамога якім значна павысіць іх прафрэпутацыю. І ўжо зусім прыемна атрымаць на тыдні прызнанне ў каханні або прапанаванне рукі і сэрца. А гэта чакае Цяльца з жаночага лагера. Згоды вам ды кахання!

Фінансавы поспех, ажыццяўленне дзелавых пачынанняў астролагі абяцаюць **Блізнятам.** Праўда, у жанчын з гэтым знакам тыдзень пройдзе ў нейкай мітусні, неладах на рабоце. Не журыцеся, наступны акажацца напэўна лепшым. І не трэба прыходзіць дамоў у дрэнным настроі. Пазбягайце сямейных сцэн.

**Раку** могуць выпасці дзелавыя паездкі, да якіх трэба добра падрыхтавацца. Паклапаціцеся аб здароўі. Астролагі лічаць, што ў падарожжах у вас можа паколваць то тут, то там. Дзяржслужачых чакае павышэнне на рабоце. Нечаканае, што ўдвайне больш прыемна. А Ракам у ваеннай форме трэба пракруціць дзірачку для ордэна. Указ аб узнагароджанні, запэўніваюць астролагі, падпісаны ўжо. Працуючых жанчын чакае сюрпрыз, а які — астролагі не гавораць. Намякаюць толькі на амурныя справы.

**Ільвам** пашанцуе і яны абавязкова даб'юцца свайго. Дзейнічайце, але не перастарайцеся — пачатак вельмі смелых праектаў на гэтым тыдні тоіць у сабе рызыку. Крыху не пашанцуе тым Ільвам, што праліваюць пот на дзяржаўнай ніве. Іх чакае непрыемнасць ад каварнага начальства. Затое Львянят, г. зн. моладзь, чакае хуткае павышэнне на рабоце або поспех у вучобе.

А ў **Дзевы** чакаецца нейкі сумбур. Не «замест музыкі», а на службе, дзе вам адмовяць у заслужанай прэміі. Астролагі, тым не менш, раяць не падаць духам і працягваць дзейнічаць, можа быць... на новай рабоце. Ды і наогул, у Дзеў тыдзень выпадзе цяжкі — перамены, пераезды, перагаворы. Хто рыхтаваўся стаць дома-, землеўладальнікам, то неадкладна вырашайце, зоркі гэтаму спрыяюць. Кампенсацыяй за цяжкасці для Дзевы стане уік-энд, які пройдзе ў зачараванні кахання.

**Шалям,** не палічыце за каламбур, астролагі раяць на тыдні ўсё старанна ўзважыць. Бізнесмены, не губляйцеся. Калі справа не наладзілася, адмаўляйцеся і ратуйце свой пай. Вас могуць падвесці нават правераныя сябры, так што будзьце напагатове. Шалі-жанчыны, наадварот, могуць расшыраць бізнес. Спраў у іх будзе настолькі шмат, што часу на каханне, флірт і сямейны ачаг проста не застанецца.

**Скарпіёна** чакае ўзлёт у кар'еры. Магчымы і фінансавыя поспехі. Смела расшырайце свой бізнес, у тым ліку і ў заморскіх краінах. У промнях вашага поспеху будуць купацца таксама сваякі, сябры, калегі.

У сям'і ў Скарпіёна ўсё будзе добра. Святы, рамантычныя сустрэчы, каханне. Але не забывайце пра здароўе.

І нарэшце, **Стралец**. Зоркі прадказваюць вам выгадныя набыткі, і ўсё па-буйному — каштоўнасці, нерухомасць... Чакайце добрых звестак на рабоце і сустрэчы з уплывовай персонай, якая і дапаможа іх паяўленню. Стральца можа паклікаць у дарогу палкая любоў. І яна ж здольна затрымаць вас дома, асабліва на выхадныя.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

### ЧАСНОК

**значна памяншае рызыку** сардэчных захворванняў і паніжае ўзровень халестэрыну ў крыві;

**прадухіляе трамбозы** — асноўную прычыну інфарктаў і кровазліцця;

**выклікае апетыт у немаўлят**. Назіранні паказалі, што калі кормячыя маці ядуць часнок, малышы ласуюцца малаком даўжэй і з большым задавальненнем;

**забівае вірусы прастуды і грыпу** і стымулюе супраціўленне арганізма інфекцыям. Калі пачынае балець горла або «закладвае» нос, каб спыніць інфекцыю, іншы раз дастаткова з'есці пару зубочкаў часнаку;

**тая ж пара зубочкаў часнаку** аблегчыць і нават «утаймуе» мігрэнь;

**утрымлівае рэчывы,** якія спыняюць развіццё раку грудзей, печані і прастаты.

### ЧАСНОЧНАЕ МАСЛА (часнок+алей)

здымае спазмы сасудаў галаўнога мозгу, сардэчныя спазмы, задышку. **Цудоўны сасударасшыральны сродак.**







Малюнкі Леаніда Разладава

## САНАТОРЫЙ ДЛЯ ДАШКАЛЯТ

Супярэчлівыя пачуцці выклікае адкрыццё ў Магілёве садка для дзяцей з лёгачнымі захворваннямі. З аднаго боку, з'яўленне санаторыя для малалетак — справа пахвальная. Тут, у дзіцячым садку № 85 аб'яднання «Хімвалакно», дашкаляты не толькі бавяць час, пакуль мамы на рабоце, але і атрымліваюць лячэнне.

А з другога... Усё большая колькасць медыцынскіх устаноў і паляпшэнне іх аснашчанасці не суправаджаюцца, на жаль, змяншэннем захворваемасці людзей. Больш таго. У вобласці адзначаны рост так званых сацыяльна залежных хвароб, носьбітамі якіх, на наш сорам, становяцца нават дзеці.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## ДОРЫЦЬ ФІРМА. НАША, АЙЧЫННАЯ

Мы ўжо прывыклі да таго, што гуманітарную дапамогу чарнобыльцам аказваюць пераважна іншаземцы. Але ёсць, ёсць і ў нашай краіне арганізацыі, якія пры ўсіх сваіх цяжкасцях і праблемах знаходзяць магчымасць падставіць плячо тым, хто пацярпеў ад «мірнага» атама. Сярод іх і Гомельская фірма «Белксеракс», якую ўзначальвае генеральны дырэктар Валянцін Чэпелеў, ліквідатара вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Гэтымі днямі фірма адклікнулася на акцыю «Чарнобыль-96» і перадала бясплатна чатыром медыцынскім установам вобласці капіравальныя апараты, пішучыя машынкі і факсы на суму каля васьмі тысяч амерыканскіх долараў. Настрой медыкаў з нагоды гэтых падарункаў выказаў галоўны ўрач Гомельскай гарадской стаматалагічнай паліклінікі Фёдар Канавалаў: шчыра ўдзячныя за разуменне нашай агульнай справы, вось каб так усе...

І з надзеяй на лепшае ў адказ прагучалі словы генеральнага дырэктара фірмы: колькі зможам — і ў далейшым дапаможам...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## Тэст на гіпертанію

**1. Ці ёсць у вас праблемы з засынаннем і наогул, ці дрэнна вы спіце?**

**Варыянты адказаў: «вельмі рэдка» — 2 балы, «рэдка» — 3, «вельмі часта» — 6.**

**2. У вас часта чырванее твар?**

**«Вельмі рэдка» — 2 балы, «так» — 3, «вельмі часта» — 8.**

**3. Вы праяўляеце сябе як асоба неспакойная, рухавая і жыццяздольная?**

**«Вельмі рэдка» — 2 балы, «так» — 3, «вельмі часта» — 6.**

**4. Ці бываюць у вас прылівы гарачыні?**

**«Вельмі рэдка» — 2 балы, «так» — 4, «вельмі часта» — 8.**

**5. Вы становіцеся раздражнёным, нервовым, хвалюецеся пры вялікай колькасці работы, абавязкаў?**

**«Вельмі рэдка» — 2 балы, «так» — 5, «вельмі часта» — 8.**

**6. Пры стамленні вы адчуваеце біццё сэрца і парушэнне пульсу»?**

**«Вельмі рэдка» — 2 балы, «так» — 4, «вельмі часта» — 8.**

**7. Ці балелі ў вас ныркі за апошнія 5 гадоў?**

**«Вельмі рэдка» — 3, «так» — 5, «вельмі часта» — 10.**

**8. Ці мільгаюць у вас перад вачамі «чорныя мушкі»?**

**«Вельмі рэдка» — 3 балы, «так» — 5, «вельмі часта» — 10.**

**9. Ці баліць у вас галава, ці бываюць галавакружэнні?**

**«Вельмі рэдка» —3, «так» — 4, «вельмі часта» —8.**

**10. Вы соліце і моцна прыпраўляеце спецыямі яду?**

**«Вельмі рэдка» — 2, «так» — 3, «вельмі часта» —6.**

**11. Вы курыце, ужываеце спіртныя напоі?**

**«Вельмі рэдка» — 2, «так» — 4, «вельмі часта» — 8.**

**12. У вас адзначаецца лішняя вага?**

**«У невялікай ступені» — 2, «так» — 3, «у вялікай ступені» — 6.**

А цяпер падвядзём вынікі

Ацэнка атрыманага выніку:

Калі вы набралі ў суме **12 балаў,** то павышэнне артэрыяльнага ціску **вам не пагражае**, наадварот, варта было б праверыць, ці не гіпатонік вы.

Калі **ад 13 да 21 бала,** то вам **пажадана і карысна рэгулярна правяраць свой артэрыяльны ціск,** трымаць яго пад кантролем, не ўхіляючыся пры гэтым ад медыцынскіх аглядаў і дыспансерызацыі. Не выключана, што пры нагрузках або пры працяглым эмацыянальным напружанні ваш артэрыяльны ціск надзвычай павышаецца, а гэта ўжо небяспечна...

Вы набралі **ад 22 да 35 балаў.** Гэта можа азначаць, што **гіпертанія ўжо дае аб сабе знаць.** Вам неабходна, не адкладваючы на потым, пракансультавацца са спецыялістамі!

**Пры 36 і больш балах** такі вынік можа ўказваць на прагрэсіруючую **гіпертанічную хваробу.** Паберажыце сябе — пастарайцеся змяніць лад жыцця, звычкі.

Нескладаныя прыёмы, якія (акрамя лекавых прэпаратаў) садзейнічаюць падтрыманню артэрыяльнага ціску ў межах нормы:

1. Старайцеся пазбягаць моцных хваляванняў і іншых стрэсавых узрушэнняў;
2. Сама меней меры паўгадзіны ў дзень адвядзіце на хуткую прагулку рытмічным крокам;
3. Пастарайцеся пазбавіцца ад лішняй вагі (паўната, на жаль, садзейнічае развіццю гіпертаніі);
4. Не злоўжывайце соллю, адмоўцеся ад моцных кавы, чаю;
5. Рэзка абмяжуйце (а лепш поўнасцю выключыце) цыгарэты і спіртныя (асабліва моцныя) напоі;
6. Поўнасцю адключыцеся ад спраў і як след адпачывайце ў час водпуску і ў выхадныя дні, слухайце добрую музыку, чытайце, больш гуляйце;
7. Знаходзьце для сябе «іншыя інтарэсы, якія выклікаюць у вас станоўчыя эмоцыі;
8. Авалодайце ўсімі даступнымі вам спосабамі і прыёмамі псіхічнай самарэгуляцыі.

**Крыніца: Я. ТАРАСАЎ**
**(урач-псіхатэрапеўт).**

*Тэст «Чырвоны Крыж Расіі»), 1995. - № 6. - с. 19.*

**ПАШТОВАЯ СУВЯЗЬ з'яўляецца прагрэсіўнай вынаходай чалавецтва, якая адносіцца да глыбокай старажытнасці. Хтосьці прыручыў каня, вынайшаў кола, пралажыў дарогу, зрабіў паштовую скрынку, марку, ажыццявіў грашовы перавод... — паклаў пачатак арганізацыі паштовай сувязі, затым уносіў уклад у яе развіццё і ўдасканальваў. Пошта патрэбна ўсім — і дзяржаве і кожнаму з нас. Яна скарачае любыя адлегласці, зблізкае людзей і цэлыя народы, дапамагае вырашаць вельмі складаныя народнагаспадарчыя праблемы.**










Паштовая сувязь у Мінску, як і ва ўсёй Беларусі, налічвае не адну сотню гадоў. Пасля Андрусаўскага міру ў 1667 годзе праз Мінск пралегла каралеўская пошта па тракту Масква — Вільня.

*КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА*

# ПОШТА Ў МІНСКУ

Са стварэннем паштовай ямы (словы «ям» і «ямшчык» татарскага паходжання. Першае паходзіць ад «дзям» — дарога, другое — ад «ям-чы» — праваднік) у Мінску былі закладзены асновы гарадской паштовай сувязі, але ў наступныя гады яна далейшага развіцця не атрымала. Штат ямы складаўся са старасты, трох ямшчыкоў і трох троек коней. Скорасць дастаўкі пошты з Масквы ў Вільню адпавядала 21 дню (сёння, як ні смешна, бывае і даўжэй!)

Да сярэдзіны XVIII стагоддзя гэта ўжо было значнае прадпрыемства сувязі — 45 коней, 15 павозак і брычак, столькі ж саней. Тады ж Мінская паштовая станцыя мела 16 суконных світак, кажухоў і рукавіц, тры канапы, слупавы ліхтар, дзве скрыні і нават медны паштовы знак для старасты.

Пасля ўтварэння Мінскай губерні усе дарогі, якія звязвалі Мінск з іншымі гарадамі, былі ўпарадкаваны, і з верасня 1795 года пачаліся рэгулярныя паштовыя перавозкі пасажыраў. Гэта дата лічыцца пачаткам уключэння Мінска ў агульнарасійскую сетку паштовай сувязі.

27 лістапада 1859 года ў Мінску адкрыўся тэлеграф. Менавіта ў гэты дзень першая тэлеграфная сувязь была ўстаноўлена паміж Мінскам і Бабруйскам. Рашэннем Галоўнага ўпраўлення пошт і тэлеграфаў і з дазволу Міністэрства ўнутраных спраў у 1886 годзе ў Мінску было вырашана заснаваць паштова-тэлеграфную акругу. Пад новае ведамства неабходна было знайсці памяшканне з вялікай колькасцю пакояў. Казённага дома не было, на будаўніцтва яго не хапала грошай і таму было вырашана ўзяць памяшканне ў арэнду. Аднак і тут сустрэліся цяжкасці. На арэндную плату дзяржаўная казна выдзеліла мала грошай. У рапарце мінскага паліцмайстра губернатару гаворыцца, «што нельга знайсці 28-пакаёвага памяшкання пад упраўленне акругі за арэндную плату ў 1800 рублёў у год. Ёсць гасцініца «Парыж» купца Я. Ляхаўскага, але за 6 тысяч у год. Пошукі памяшкання і сродкаў для аплаты арэнды працягваліся месяц. Нарэшце памяшканне было знойдзена, праўда з меншай колькасцю пакояў, і мінскі губернатар пісаў у Пецярбург, што «мною адкрыта 1 ліпеня 1886 года ў г. Мінску Упраўленне паштова-тэлеграфнай акругі, у састаў якога ўключаны губерні Мінская і Магілёўская».

У 1898 годзе жыхары 3-й часткі горада накіравалі начальніку паштовай акругі прашэнне аб адкрыцці на Траецкай гары паштовага аддзялення. У той час у гэтым раёне пражывала 23.507 жыхароў.

У пачатку XX стагоддзя ў Мінску былі губернская паштовая кантора і адно паштовае аддзяленне, што аказалася недастатковым для буйнога губернскага горада. Таму ў снежні 1912 года ў Мінскую гарадскую думу было накіравана чарговае прашэнне аб адкрыцці 2-га гарадскога паштовага аддзялення ў раёне паміж 4-й і 5-й часткамі горада. У прашэнні ўказвалася, што «адкрытага больш за 10 гадоў таму назад у 3-й частцы паштовага аддзялення недастаткова». І зноў мясцовым уладам і Галоўнаму паштоваму ўпраўленню у Пецярбургу спатрэбілася каля паўтара года, каб задаволіць просьбу мінчан.

У дакументах таго часу паведамляецца, што «1 красавіка 1914 года адкрыта паштовае аддзяленне ў горадзе Мінску па Захар'еўскай вуліцы паміж пабудаваным касцёлам і мостам Лібава-Роменскай чыгункі».

Раён Залатой горкі Мінска знаходзіўся за 4 вярсты ад Галоўнай паштовай канторы. Таму ў прашэнні ад 20 мая 1914 года на імя начальніка Мінскай паштова-тэлеграфнай акругі гаварылася, што «адкрыццё 3-га гарадскога паштовага аддзялення на Залатой горцы не толькі з'яўляецца вельмі пажаданым, але і крайне неабходным па прычыне росту горада ў гэтай мясцовасці і пражывання тут 15 тысяч жыхароў». Прашэнне было адпраўлена ў Пецярбург, дзе праляжала да 1916 года! У студзені 1916 года на прашэнні паявілася рэзалюцыя: «Адкрыццё 3-га паштовага аддзялення ў горадзе Мінску на Залатой горцы адкласці да найбольш спрыяльнага моманту». Ваенныя дзеянні на Заходнім фронце, відаць, наблізілі гэты спрыяльны момант. У горадзе пасяліліся бежанцы, воінскія часці і каманды, з'явіліся палявыя лазарэты, шпіталі і г. д. Узрос паток пісьмаў і іншых паштовых адпраўленняў. Усё гэта прымусіла Галоўнае ўпраўленне пошт згадзіцца на адкрыццё 3-га паштовага аддзялення на Залатой горцы. Яно было адкрыта 22 жніўня 1916 года ў доме № 36 на рагу Аляксандраўскай і Старажоўскай вуліц.

Такім чынам, у Мінску да канца першай сусветнай вайны працавалі тры гарадскія паштовыя аддзяленні і губернская паштова-тэлеграфная кантора.

**Рубрыку вядзе Леў КОЛАСАЎ.**

# КРЫЖАВАНКА

**По гарызанталях і вертыкалях**: 1. Касцюміраваны баль, вечар. 2. Ёлачная цацка. 3. Фокуснік. 4. Атрыбут карнавала. 5. Графік работы, заняткаў. 6. Афарбоўка. 7. Прыстасаванне фатаграфічнага апарата. 8. Літара лацінскага алфавіта. 9. Спосаб ходу, бегу каня. 10. Скос, закругленне на краі дошкі. 11. Кароткае апавяданне са смешным тэкстам. 12. Урачысты верш. 13. Ганаровы знак за асаблівыя заслугі. 14. Балетнае па. 15. Вечар перад Новым годам па старым стылі. 16. Канцэртна-відовішчныя выступленні. 17. Від паветранага транспарту. 18. Адварот на канцы рукава. 19. Доўгая жаночая сукенка для верхавой язды. 20. Маскарадны касцюм. 21. П'еса Я. Купалы. 22. Народнае свята. 23. Ніткі, якія ідуць паралельна ўздоўж тканіны. 24. Напітак з зерня трапічнай расліны. 25. Пастаноўшчык спектакля, фільма. 26. Халодная закуска. 27. Дарожка для гоначных спаборніцтваў. 28. Установа, дзе рэгіструецца шлюб. 29. Работнік запаведніка, лясной гаспадаркі. 30. Невялікі музычны твор. 31. Лікавая ацэнка выступлення фігурыстаў. 32. Масавая народная гульня. 33. Цыркавы артыст, гімнаст.

Склаў Уладзімір АБАБУРКА.
*Клецкі раён, в. Морач.*






Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка зашыфраванае віншаванне.

А) 1-2-3-4-5-6 — аўтар оперы «Баль-маскарад»,
Б) 7-8-9-10 — папулярны музычны інструмент,
В) 11-12-13-14-10 — персанаж паэмы Я. Коласа,
Г) 1-9-15-16-17-6-10 — беларускі паэт,
Д) 18-8-3-12-19 — сталіца заходнееўрапейскай краіны.

**Склаў Рыгор ЯКУШ.**
г. Мінск.

## АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**КРЫЖАВАНКА (23 снежня).** 1. Тройка. 2. Срэбра. 3. Хром. 4. Ікра. 5. Маскарад. 6. Анаграма. 7. Асот, 8. Ралі. 9. Карась. 10. Графіт. 11 Транспарант. 12. Інфарматыка. 13. Аксаміт. 14. «Марынка». 15. Крылатка. 16. Атлетыка. 17. Тактыка. 18. Артыкль. 19. Клас. 20. Серп. 21. Адклад. 22. Рэктар. 23. Насок. 24. Купал.

**ГАЛАВАЛОМКА (23 снежня). Па вертыкальных слупках**: 1. «Каза». 2. Поўнач. 3. Партос. 4. Карнавал. 5. Араторыя. 6. Тэлеграма. 7. Кальчуга. 8. Красворд. 9. Звязда. 10. Гогаль. 11. Зіма. **У гарызантальным радку**: «З новым годам!»

Першай адказ на галаваломку даслала Любоў Нічыпарчык з Брэста.

## ФОКУС З ВЯРОЎКАЙ

Калі вы разгадаеце крыжаванкі ці іншыя галаваломкі, якія мы вам звычайна прапануем, займіцеся ў вольную хвілінку нескладаным фокусам, які ведаюць быццам бы і многія, ды забываюць аб ім. Прапануйце сваім сябрам завязаць на вяроўцы ці шпагаце вузельчык, не выпускаючы з рук канцоў. Пасля некалькіх спроб вам будуць даказваць, што гэта немагчыма зрабіць. Сапраўды, каб канцы вяроўкі перапляліся для ўтварэння вузла, трэба хоць раз перахапіць яе, а для гэтага трэба выпусціць хоць адзін канец з рук.

Тым не менш задача рашаецца проста. Пакладзіце вяроўку на стол. Перапляліце рукі на грудзях, потым нахіліцеся да стала і вазьміце пачаргова кожнай рукой па аднаму канцу вяроўкі (гл. малюнак). Ну, а цяпер развядзіце рукі ў бакі— прыкладна пасярэдзіне вяроўкі з'явіцца вузел!



*Post Factum*

### Гэты дзень у гісторыі

**Сёлета спаўняецца 835 гадоў** як полацкі майстар Лазар Богша стварыў шэдэўр старажытнабеларускага мастацтва — крыж Ефрасінні Полацкай. У **тым жа 1161 годзе** завершана будаўніцтва полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага храма.

**6 студзеня 1872 года** нарадзіўся вядомы рускі кампазітар Аляксандр Скрабін, аўтар некалькіх сімфоній, мноства санат, паэм, прэлюдый для фартэпіяна, ён жа ўпершыню ў музычнай практыцы прымяніў светламузыку.

**У гэты ж дзень у 1943 годзе** Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у Чырвонай Арміі ўведзены пагоны.

Роўна праз два гады — **6 студзеня 1945 года** прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Уінстан Чэрчыль звярнуўся да Вярхоўнага Галоўнакамандуючага савецкіх Узброеных Сіл І. Сталіна з просьбай аказаць тэрміновую дапамогу войскам саюзнікаў, якія трапілі ў складанае становішча ў сувязі з наступленнем нямецкіх войскаў у Ардэнах. Дапамога была аказана.

**6 студзеня 1993 года** на ўласным востраве ў Міжземным моры памёр ад СНІДу выдатны танцор Рудольф Нурыеў. У 1961 годзе ў час замежных гастроляў ён застаўся на Захадзе.

### Народны каляндар

**Сёння — Куцця, пярэдадзень Каляд**. Назва паходзіць ад абрадавай стравы — кашы з ячных ці ячменных зярнят. Гэта вячэра спраўлялася вельмі ўрачыста, стравы абавязкова былі поснымі. Звараная ўдзень каша стаяла ў гаршку на покуці, самым пачэсным месцы сялянскай хаты, рэшткі яе пасля трапезы сімвалічна пакідалі продкам.

Па народных прыметах, калі на Куццю неба зорнае — будзе багаты прыплод жывёлы, добры ўраджай на ягады.

**По каталіцкім календары сёння Вадохрышча.**

### Цікава

***Вось якія цуды падкідвае часам людзям прырода.***

Балхаш — адзінае на тэрыторыі былога Савецкага Сюза возера, якое мае розную ваду. Яно раздзяляецца вузкім пралівам на дзве часткі — заходнюю і ўсходнюю. У адной вада прэсная, у другой — салёная. Цікава яшчэ, што плошча гэтага казахскага возера рухомая: ад 17 да 2 тысяч квадратных кіламетраў.

А на Урале, у Чэлябінскай вобласці, ёсць дзіўнае возера — Салодкае. У ім можна мыць бялізну без мыла і нават выводзіць масляныя плямы. У вадзе ўтрымліваюцца сода і кухонная соль. Сода, як вядома, мае саладкаваты смак. Наяўнасць гэтых рэчываў у пэўным хімічным спалучэнні і надае вадзе возера Салодкага асаблівыя якасці (шчолачную рэакцыю).

### А яшчэ быў выпадак

Аднойчы амерыканскі кінаакцёр Адольф Менжу, абнаўляючы свой гардэроб, заказаў у аднаго з лепшых галівудскіх шаўцоў штаны. Выкананне заказу зацягнулася. Толькі праз месяц, пасля некалькіх прымерак, шавец нарэшце выканаў заказ. Забіраючы штаны, акцёр з раздражненнем сказаў шаўцу:

— Богу спатрэбілася сем дзён, каб зрабіць свет, а вы мне трыццаць дзён шылі адны штаны.

На гэта шавец адказаў:

— Сэр, паглядзіце, калі ласка, на гэты свет і паглядзіце ж на гэтыя штаны!

### З гісторыі прозвішча

**Новік. Новікаў.** Распаўсюджанасць прозвішча тлумачыцца тым, што любога навічка, навасёла, прышэльца калісьці разывалі новікам. Не выпадкова ў старых кнігах некаторых людзей па прозвішчу Новік суправаджаў і такі подпіс — «прыхожы» (г. зн. прышлы чалавек).

**Пратасаў, Пратас, Протас** — паходзяць ад грэчаскага імя *«Пратаса»*, што азначае ставіць наперадзе, вылучацца наперад.

**Сувораў.** Суворам, ці суворым, даўней называлі чалавека суровага, нелюдзімага.

### Анекдот

*Сям'я Івановых пераехала на новую кватэру. Праз некалькі дзён знаёмыя пытаюцца ў Іванова:*

*— Ну, як вы сябе адчуваеце на новым месцы?*

*— Павінен сказаць, што жонка спачатку нервавалася, а зараз адчувае сябе выдатна — яна ўжо перасварылася з усімі суседзямі.*

**Рубрыку вядзе Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

Сябры і знаёмыя віншуюць з юбілеем дырэктара прадстаўніцтва АТ «Газета «Известия» ў Беларусі Шагуна Аляксандра Ігнатавіча.

Жадаем моцнага здароўя, шчасця. Жадаем назаўсёды заставацца імпазантным, цікавым мужчынам.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113191. Індэкс 63850.
Зак. № 47.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12